*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 15(400)** **14 КРАСАВІКА 1999 г.**

# “Наша слова” № 400

## Гавораць сябры рэдкалегіі



*“Той, хто хоча рабіць, шукае магчымасці, той, хто не хоча, шукае прычыны”.*

Мы хочам рабіць нашу газету, мы хочам рабіць незалежную Беларусь, мы хочам рабіць нашу мову адзінай і дзяржаўнай на абшарах нашай Бацькаўшчыны. Мы не адны ў гэтым сваім жаданні, мы не адны любім Беларусь, але ў кожнага і да Беларусі, і да мовы свой шлях. Наш шлях праз прапаганду роднага слова, праз сцвярджэнне яго адвечнасці і векавечнасці. Наш шлях праз пераадоленне моўнага нігілізму, праз ачышчэнне мовы ад чужароднай набрыдзі, праз папулярызацыю яе паміж усіх станаў нашага грамадства.

Мы не проста ідзём па гэтым шляху, мы стараемся з дапамогай “Нашага слова” рабіць гэты шлях шырэйшым і гладчэйшым для іншых, для тых, хто пойдзе следам.

Сёння ў нас прычын спыніцца значна больш, чым магчымасцяў ісці. Але мы цвёрда верым у нашую Беларусь ~~і мы забудзем на ўсе прычыны і будзем шукаць~~ магчымасці, каб не ўпасці на паўдарозе, каб маленькая зьічка “Нашага слова” і надалей гарэла на пакуль яшчэ цёмным беларускім небе.

*Станіслаў Суднік.*

Газета “Наша слова” – гэта не “Советская Белоруссия” і не “Народная газета”. Дзеля таго, каб падпісацца на гэтую газету, дзяржава датацыяў не дае. Хутчэй, наадварот. І тым не менш, выйшаў 400-ты нумар “Нашага слова”. Гэта вялікая перамога Таварыства беларускай мовы, рэдакцыі газеты і усіх тых, хто рупіцца пра сваю родную беларускую мову.



На жаль, беларускую мову ўсё больш і больш заціскаюць у стан падчаркі ў сваёй краіне. Ці будзе жыць надалей нашая нацыянальная мова, ці будзе існаваць надалей Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны і ягоны друкарны ворган – газета “Наша слова”? Гэта залежыць ад усіх нас і ад Бога. Няма мовы, няма народу, няма нацыі. Ці зразумеем мы гэта і ці павернемся нарэшце да сваёй мовы, ці усвядомім сябе беларусамі, ці зможам з гонарам несці сваю нацыянальную прыналежнасць, як гэта робяць усе астатнія народы свету? Няўмольны час пакажа.

Калі я пісала гэтыя радкі, прыйшла трагічная вестка: памёр вядомы лідар беларускай апазіцыі Генадзь Карпенка. Як прадстаўнік беларускай апазіцыі, я засмучана асабіста і прыношу свае шкадаванні сям'і і блізкім Генадзя Дзмітрыевіча.

*Лілея Сазанавец.*



Пэўна, свядомае меркаванне, што беларуская мова для мяне першая і апошняя існасць я цвёрда засвоіў з добры дзесятак гадоў таму.

І ўсё ж перад гэтым, я падсвядома адчуваў яе першнасць. Прычынай таму, пэўна, былі мае бацькі.

Яшчэ ў дзевятым класе рускай школы куды я памкнуў з вёскі, куаб атрымаць сярэднюю адукацыю ў першымся сачыненні па рускай літаратуры на дзесяці старонках вучнёўскага сшытка зрабіў пяцьдзесят памылак. Вынікам таму была беларускасць. Замiж літары “о” я пісаў “а”. Пасля таго як паступіў ва ўніверсітэт і станавіўся на вайсковы ўлік ва ўліковай картцы напісаў “халасцяк”. Карак адстаўнога палкоўніка, што прымаў дакументы пачырванеў, ён парваў уліковую картку ды абазваў мяне “тупым беларусам”. Тады я ецярпеў, але пазней, калі камандзір вайсковай часткі дзе праходзіў службу, на афіцэрскім сходзе за маё недасканалае расейскае вымаўленне выславіў мяне “бульбашом”, то я гучна на ўсю залу зазначыў, што ён “маскаль”.

Беларуская мова ёсць першаснасць нашай нацыянальнай свядомасці. І калі немаўля асэнсована кажа “тата”, то ў яго душы пасеяна зерне беларускасці. Вельмі хочацца спадзявацца, што хутка яно прарасце: з'явяцца першыя карэньчыкі ды кволыя сцебялінкі. А неўзабаве закрасуе магутнае поле Беларушчыны.

*Язэп Палубятка.*

Газета --гэта жывая душа, якая нарадзілася з супольных, шчырых памкненняў аднадумцаў. Калі ёсць гэтая повязь светлага і самаадданага, будзе жыць газета ў самы цемрашальны час. Я думаю, так узнікла і “Наша слова”. Колькі таленту, мужнасці спатрэбілася і пачаткоўцам, і наступнікам: Нілу Гілевічу, Генадзю Тумашу, Эрнэсту Ялугіну, Станіславу Судніку, многім пісьменнікам, журналістам, навукоўцам, каб у краіне на ўсю моц гучала наша слова. Кожны з іх даў газеце часцінку сваёй душы. І як бы ні ўціскалі “Наша слова”, як бы ні знясільвалі пярэбарамі, як бы ні здзекаваліся з нашай мовы, як бы ні прыніжалі яе, як бы ні таптялі ТБМ, як бы ні выганялі з уласнай хаты -- а газета жыла, бо расла на несмяротным грунце -- на родным слове. Яно, слова, жывіць і думку, і асобу, і свет.



400-ты нумар -- гэта трывалы камень у падмурак беларушчыны, які не скрышыць і не вывернуць з гнязда.

Расці і ўмацоўвайся “Наша слова” дзеля беларускай мовы і Беларусі.

*Людміла Дзіцэвіч.*

Цягам часу спраўна шырыцца разлог “Нашага слова” ў абарону роднай мовы і культуры – гэтых неадымных атрыбутаў беларускай нацыі і самой дзяржаўнасці Беларусі, у асвятленні гісторыі нашай Бацькаўшчыны і яе незайздроснага быцця-існавання ў сённяшніх варунках.

Але змаганне за незалежнасць Беларусі вымагае значнага пашырэння нашай працы ў гэтым кірунку – дзеля згуртавання ўсіх супольнікаў нацыі, каб захаваць Беларусь, як суверэнную дзяржаву. Таму хочацца часцей бачыць на старонках “Нашага слова” і вострыя публіцыстычныя вершаваныя і празаічныя радкі славутых пісьменнікаў і навукоўцаў, грамадскіх дзеячаў, настаўнікаў і лекараў, рабочых і сялянаў, каб супольнымі намаганнямі захаваць беларускую нацыю, беларускі этнас, адзін з знакамітых славянскіх народаў.



Дык згуртуймася вакол нацыянальнай ідэі, каб абараніць нашую мілую, родную, непаўторную старонку Беларусь! Бо адно тут мы зможам здзейсніць сваю запаветную мару “людзьмі звацца” і па-людску жыць і квітнець на дадзенай Богам зямлі нашых продкаў.

*Павел Сяцко*

**17 красавіка**
**ў Менску ў Доме літаратара**
**адбудзецца VI з'езд**
**Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны**
**Пачатак рэгістрацыі ў 8.30**
**(Месца з'езду можа быць зменена, даведкі па тэлефоне 017-2-84-85-11)**



***— Вас не засмучае, што ТБМ залічваюць у апазіцыю?***

— Мы гэтым ганарымся. Таму што зараз у апазіцыі да рэжыму знаходзяцца ўсе адукаваныя, культурныя людзі, незалежна ад палітычных поглядаў. Побач з намі камуніст Шчукін, які сам калісьці выступаў супраць беларускай мовы – зараз ён змагаецца за яе, ахвяруючы ўласным жыццём. Ён сваю ўнучку аддаў у беларускамоўны клас, а потым гэты клас зачынілі... Такі плюралізм па-лукашэнкаўску. Іншая рэч, што не ўсе пойдуць на вуліцы і пляцы. Некаторыя будуць пісаць раманы, некаторыя проста размаўляць па-беларуску, не ўжываць мата. І гэта таксама палітыка.

***— Якім вы бачыце далейшы лёс расейскай мовы ў Беларусі?***

— Яна ў нас усё адно пашырацца не будзе, нават калі мы часова трапім у склад Расеі. Расейская мова перажывае зараз глыбокую крызу ў звязку з сусветным панаваннем ангельскай. Калі да ўлады прыйдзе культурнае кіраўніцтва, то трасянку мы знішчым за год-два. Расейскую мову трэба пакінуць як школьны прадмет (на жаданне вучняў). І гэта зусім не праблема. Яшчэ Караткевіч пісаў, што бяда беларуса – яго начальства. Калі мы створым беларускамоўны Кабінет міністраў, праз год ТБМ трэба будзе зачыняць. Бо беларус заўсёды гаворыць на мове начальства. Перш за ўсё трэба акультурыць народ, бо ён не можа нармальна размаўляць ні на якой мове.

***— Якімі метадамі гэта можна зрабіць? І ў якіх канкрэтна кірунках ідзе праца?***

— Мова перш за ўсё – прыкмета адукацыі. Таму галоўным нашым метадам ёсць павышэнне агульнай адукацыі беларускага грамадства. Як не няма, то заклікі і загады бездапаможныя. Мы хочам, каб як мага больш грамадзянаў Беларусі, незалежна ад нацыянальных каранёў, атрымала нармальную еўрапейскую гуманітарную адукацыю. Тады кожны чалавек сам зразумее, што без беларускай мовы ў Беларусі жыць яму будзе кепска.

***— Пры іншай уладзе якая будзе роля дзяржавы ў пашырэнні беларускае мовы і культуры?***

— Роля дзяржавы ў нас будзе яшчэ больш эфектыўнаю, чым ва Украіне ці Летуве, таму што беларусы – дзяржаўны народ. Яны самыя паслухмяныя. Заўжды слухаюць начальства і гавораць на яго мове. Але тут патрэбныя нават не загады, а свае ўласныя прыклады, і гэтага будзе дастаткова. Я гэта ведаю з досведу: калі працаваў два гады дэканам на Універсітэце культуры, то са мной усе студэнты і выкладчыкі размаўлялі па-беларуску. З новым дэканам яны гавораць на яго мове.

Калі мы будзем укладваць вялікія грошы ў музеі, бібліятэкі, архівы, калі мы высока падымем прэстыж настаўніка беларускае мовы (добры заробак з умоваю непрафанацыі справы), нашая культура будзе пашырацца, будзе стварацца сапраўдная Беларусь.

*Адказваў Алег Трусаў*



№ 15(400) 14 КРАСАВІКА 1999 г. Наша слова

# Інфармацыя
## аб працы Сакратарыята ТБМ імя Ф. Скарыны

Пасля V з'езда ТБМ праведзена 30 паседжанняў Сакратарыята, 7 паседжанняў Рэспубліканскай Рады, на якіх разглядаліся надзённыя пытанні дзейнасці арганізацыі, ў прыватнасці: сучасны стан беларускамоўнага навучання ў сярэдняй школе; аднаўленне выпуску газеты ТБМ "Наша слова"; перспектывы дзейнасці ТБМ, праца ў камісіях.

Працягваецца перарэгістрацыя рэгіянальных суполак ТБМ і рэгістрацыя зноў створаных. Зарэгістравана Віцебская абласная арганізацыя, а таксама Лідская аб'яднаная арганізацыя ТБМ, перарэгістраваны Рады ТБМ Верхнядзвінскага, Глыбокскага, Гарадоцкага, Полацкага, Ушацкага раёнаў, гарадскіх арганізацый Віцебска, Наваполацка. Адбылася перарэгістрацыя Магілёўскай гарадской, Гарадзенскай гарадской, Маладзечанскай аб'яднанай, Ваўкавыскай рэгіянальнай радаў. Утварыліся суполкі ў Асіповіцкім, Узд зенскім, Бярозаўскім раёнах, дзе раней не было арганізацый ТБМ, на Менскім трактарным заводзе, ў Маладым Фронце.

У лістападзе 1997 года адноўлены выхад газеты "Наша слова" ( у г. Ліда). Выконвае абавязкі галоўнага рэдактара Станіслаў Суднік. Выдадзена 70 нумароў.

Абноўлена работа камісій ТБМ. Сябры Сакратарыята працуюць у наступных камісіях: арганізацыйна-прапагандысцкай, адукацыйнай, тэрміналагічнай, па культуры мовы, па зрокавым і гукавым афармленні асяроддзя.

Праведзена работа па ўпарадкаванні гаспадарчых і фінасавых спраў. 1 студзеня 1998 года рашэннем сакратарыята (пратакол № 16 ад 23.12.1997 г.) Таварыства спыніла гаспадарчую дзейнасць.

Усяго з 12.04.1997 па 01.05.1998 г. атрымана ахвяраванняў 256.041.000 руб. Найбольш актыўнымі сярод ахвярадаўцаў з'яўляюцца: Голубеў Ул., Ж.В.Я., Ул. Цярохін, Ген. Багданкевіч, Аркадзь Галай, С.В. Купрыянава, Барыс Бароўскі, А.Ю. Кананові ч, Святлана Багданкевіч, Валянцін Карпуць, Мікола Устрымчук; арганізацыі: Беларускі універсітэт культуры, Белдзяржуніверсітэт, Лідскае гар. ТБМ, выдавецтва "Беларусь", "Полымя", Полацкая Рада ТБМ, Рада ТБМ Ленінскага р-на г. Менска, Віцебская Рада ТБМ, Маладзечанская Рада ТБМ, Столінская Рада ТБМ, Лагойская Рада БНФ, фонд "Спадчына" г. Прага, Латвійскі фонд беларускай культуры, Беларускі дзяржаўны тэхналагічны універсітэт, Гарадоцкая Рада ТБМ, суполка ТБМ "Зялёны луг", суполка № 5 Рады БНФ Ленінскага раёна г. Менска, суполка "Тэлесябрына", НВК "Тэхналогія", Светлагорская Рада ТБМ, Рада ТБМ Савецкага раёна г. Менска, Гарадзенская гарадская Рада ТБМ, Акадэмічная Рада ТБМ, Заводская Рада ТБМ, Жыткавіцкая раённая, Магілёўская гарадская, Пружанская раённая, Рада ТБМ Партызанскага раёна г. Менска, а таксама беларускія дыяспары Расеі, Латвіі, ЗША.

Выручка ад рэалізацыі кніг склала 10.824.000 руб., за продаж асноўных сродкаў атрымана 40.625.000 руб. Такім чынам, усіх паступленняў атрымана - 307.490.000 руб.,

13 трауня адбыўся суд па зыску з Таварыства беларускай мовы 840.798.761 руб., скасаванні дамовы аб арэндзе і высяленні з памяшкання па вул. Румянцава, 13. Суддзя М.І. Амбражэвіч палічыла магчымым пакінуць усе патрабаванні ЖРЭА, знізіўшы суму запазычаннасці да 540.798.761 руб. ТБМ лічыць гэтае рашэнне несправядлівым і рыхтуе адпаведныя дакументы, каб абскардзіць яго.

У рамках праграм падтрымкі беларускамоўных класаў, школ, ВНУ выдадзена бязвыплатна каля 3 тысяч асобнікаў кніг для Радаў і суполак ТБМ.

Сумесна з дзіцячым фондам "Сакавік" у адзіным беларускамоўным класе СШ № 44 г. Менска праведзены конкурс і гульні.

Зробленны аналіз стану беларускамоўных класаў у СШ № 192, № 2. Сябры Сакратарыята на апошнім званку віталі вучняў беларускамоўнага 11 - "г" класа гімназіі № 20 г. Менска, дзе бацькі 11 гадоў назад адстаялі права навучэння ў роднай мове і не страцілі яго на працягу ўсіх школьных гадоў.

Сумесна з Менскай гарадской Радай ТБМ праведзены 2 конкурсы: "Беларусь маімі вачыма" ( усяго 56 работ, 10 пераможцаў) і "Беларусь - наш дом у XXI стагоддзі" (ўдзельнічалі дзеці ад 6 да 16 гадоў - усяго 600 работ).

Працягваецца збор фактаў па парушэннях лінгвістычных правоў у Рэспубліцы Беларусь. Падчас падрыхтоўкі да пасяджэння Рэспубліканскай Рады сумесна з Менскай гарадской Радай складзены ліст-запыт рэктарам усіх дзяржаўных і недзяржаўных ВНУ (57), Атрымана 28 адказаў.

Праведзена 26 паэтычных "купалаўскіх" сустэч са знакамітымі майстрамі беларускага слова Н. Гілевічам, В. Зуёнкам, М. Аўрамчыкам, С. Грахоўскім, С. Законнікавым, А. Вярцінскім, А. Дранько-Майсюком, А. Хатэнка, М. Скоблам, М. Мятліцкім, А. Лойкам, А. Пісьмянковым, С. Адамовічам, С. Верацілам, Я. Гучком, А. Бадаком, А. Кудласевічам, В. Пазнякевічам, М. Маляў-кам, удзельнікамі літаратурнага аб'яднання з Узды.

# НАВОШТА Ж ЯШЧЭ РАЗ ЗНЕВАЖАЦЬ БЕЛАРУСКІ НАРОД
## ( або зноў пра перапіс насельніцтва Беларусі )

Азнаёміўшыся ў першай палове студзеня з "переписным листом населения Республики Беларусь" Менская гарадская рада Таварыства беларускай мовы вырашыла, што гэта не сапраўдны перапіс насельніцтва, а павярхоўная акцыя якая скіравана супраць этнічных і дзяржаўных асноў беларускасці. Мне было даручана звярнуцца з адпаведнымі тлумачэннямі ў вышэйшыя ўрадавыя структуры і выступіць у друку. Адпаведна тэкст я накіраваў на імя прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі і кіраўніка ўрада Сяргея Лінга. Матэрыял надрукаваны таксама ў газеце "Наша слова" (03.02.1999г.). Кабінет Міністраў прамаўчаў. Адказ ад Міністэрства статыстыкі і аналізу я атрымаў 11.02.1999 г.

**Пра што ж мы заклапочана пыталіся?**

Зробім таму кароткі пералік.

1. Чаму перапісныя лісты для Беларусі, дзе каля 80 працэнтаў насельніцтва карэння беларусы, зроблны на расейскай мове. На час напісання намі звароту беларускамоўных лістоў ва ўсім Менску мы не знайшлі ні аднаго. Само сабою ўзнікла і такое пытанне: ці магчыма, каб у Францыі, напрыклад, такі перапіс рабіўся не на французскай мове, а на мове іншай, хоць і сяброўскай, краіны?

2. Чаму сутнасць перапісу зусім не асвятлялася ў сродках масавай інфармацыі? Чаму не публікаваўся змест тых " перапісных листов"?

3. Чаму замест пытання "якая мова з'яўляецца для Вас роднай" нахабна і вельмі хітра пастаўлена пытанне "на каком языке Вы обычно разговариваете дома" хоць без усялякага апытання вядома, што на трасянцы. Бо беларуская цэлымі стагоддзямі выбівалася злачынна з нацыянальнай сутнасці беларусаў, а каб вывучыць расейскую двухсот гадоў беларусам аказалася мала. А зараз вярхоўныя ўлады Рэспублікі начале і пад кіраўніцтвам самога А.Лукашэнкі зноў на дзяржаўным узроўні робяць усё магчымае, каб беларуская мова былы зусім не патрэбна грамадству. Больш таго, ррознымі, а нярэдка самымі непрыстойнымі хітрымі прыёмамі беларусы нацкоўваюцца супраць сваёй мовы. У выніку практычна знікае беларускамоўнае навучанне ў гарадах. На гэта накіравана ўся беларуская сістэма адукацыі, узначаленая міністрам В. Стражавым. У тым адна з галоўных мэтаў прэзідэнцкай дзейнасці А. Лукашэнкі. Гэта яму належыць выказванне: "белорусской мовой пользуются только люди, которые ничего не умеют, кроме как разговаривать на белорусском языке. Белорусская мова бедная. На ней нельзя глубоко высказаться".

4. Чаму прэзідэнцкія сродкі масавай інфармацыі не даюць магчымасці выступіць з тлумачэннямі, што вынікі разгляданага перапісу будуць выкарыстаны беларускімі ўладамі, каб паказаць, што беларускамоўнай і беларускаэтнічнай праблемы не існуе, беларусы самі адракліся ад сваёй мовы, не карыстаюцца ёю нават дома, усе яны скіраваны ператварыцца ў расейскі народ.

5. Чаму ў апытальным лісце няма пытанняў:

*— Як Вы адносіцеся да знішчэння беларускай мовы і беларускай этнічнай самабытнасці? (Станоўча, адмоўна).*

*—Ці магчыма захаванне і развіццё беларускай мовы і этнічнай самабытнасці без захавання і развіцця самастойнай беларускай дзяржаўнасці? (Немагчыма, магчыма).*

6. Чаму маецца мноства іншых (пералічаных там) недарэчнасцяў і недахопаў?

Але галоўнае з нашых пытанняў або зусім не закранаецца у адказах "МИНСТАТА", або разлічана на "нязодольных" беларусаў.

Пакажам адзначанае.

1. "Зам.Министра Г.И. Гасюк" зрабіў спробу паказаць, што пад яго кіраўніцтвам усё па перапісу рабілася ў адпаведнасці з "рекомендациями переписей населения и жилищ 2 000 года в регионе Европейской Экономической Комиссии ООН". Аднак адтуль былі не абавязковыя указанні, а толькі "рекомендации", якія мелі свае, больш эканамічныя, а не этнічныя мэты. У Беларусі ж стварылася пагроза знікнення ў этнічных адносінах карэннага беларускага народа. Таму, пры ўліку пажаданяў камісіі ААН, разгляданы перапіс павінен быў усёй сваёй сутнасцю быць скіраваным на ўратаванне беларусаў у этнічных адносінах. Зроблена ж наадварот.

2. Да ліста "Минстата" не прыкладзена аніякіх выпісак "из рекомендаций ООН", у адпаведнасці з якімі быццам бы "сформулированы ... вопросы о языках". Аднак, калі такія "рекомендации" сапраўды існуюць, то, па-першае, успрыняцце ўсякіх рэкамендацый павінна рабіцца з улікам уласна-дзяржаўных неабходнясцяў. А па-другое, здзіўляе імкненне намесніка міністра апраўдаць нават абсурднае пытанне "о другом языке, каким вы свободно владеете. Бо зараз ужо многія "владеют" не адным, а некалькімі "языками". Паняцце ж "свободно" вельмі адноснае. Бо, напрыклад, часта складваецца ўражанне, што прэзідэнт не "владеет" адпаведным чынам ні адным "языком" чалавечых адносін.

3. Нідзе, нават у "Звяздзе" (па адказах яе кіраўніцтва), не была надрукавана інструкцыя па правядзенню "переписи населения". Пагэтаму грамадзяне нічога не ведалі аб сваіх правах, аб метадзе "интервью". Да таго ж большасць "ответов" будзе зафіксавана на "великом и могучем" хоць таму, што "переписчики" (па-большасці, як і ўся беларуская інтэлігенцыя) беларускай мовы амаль што не ведаюць. Прыклад таму сам ліст да мяне "замминистра минстата". Я пісаў свой заклапочаны зварот па-беларуску. Ён жа мне адказваў па-расейску, не гледзячы на шматсоценны штат міністэрства.

4. Спасылка на тое, што "проект программы переписи населения 1999 г. был согласован со всеми министерствами, национальной академией наук Р.Б.", не дае адказу на наша пытанне: чаму ён не быў абмеркаваны з самім народам. Бо міністэрствы падпарадкаваны "президентской вертикали" і ні ў чым не пярэчаць ёй. Наша ж акадэмія навук не з'яўляецца сапраўды нацыянальнай па прыкладу Акадэмій Навук ўншых цывілізаваных краін, тым аб'яднаннем, якое першаснай сваёй мэтай павінна мець яднане нацыі, яе захаванне на аснове тытульнага этнасу, зберажэнне дзяржаўнай самастойнасці. Бо калі не будзе нацыі, то не можа быць і нацыянальнай акадэміі навук. Да таго ж за ўсю акадэмію маглі адказваць некалькі калянавуковых беларусафобаў. Значыць сапраўды галоўныя нашы пытанні, пастаўленыя перад прэзідэнтам і кіраўніком урада, не закрануты ў лісце "замминистра Г.И. Гасюка". Інакш і быць у даных умовах не магло. Бо, як ужо адзначалася вышэй, на думку нашага самага галоўнага зберагальніка ісціны ў яе апошняй інстанцыі, гэта значыць самога прэзідэнта, тыя, хто карыстаецца беларускай мовай, людзі непаўнацэнныя, відаць, у разумовых адносінах. Але ж беларускай мовай (хоць перамешанай) карыстаецца большасць нашага сялянскага народа і ўся беларуская нацыянальна свядомая эліта). Таму гэты вялікі чалавек імкнецца як мага хутчэй упіхнуць Беларусь у склад Расеі, якою ён будзе магутна кіраваць.

Толькі Бог не дапусціць таго. Бо беларусы – не дэбілы !!! З іх асяроддзя шматлікімі асобамі напаўняўся ў многім увесь цывілізаваны свет, а найбольш – сама Расея. Таму выпадзенне 12-мільённага беларускага этнасу з непарыўнага ланцуга сусветнай цывілізацыі прынясе непапраўную шкоду ўсяму чалавецтву. Разуменне адзначанага заклікае нас на змаганне. Бог, як стваральнік усіх этнасаў, для самаўдасканальвання людской супольнасці праз узаемадзеенне тых рознасцяў, дапаможа нам. З гэтай нагоды мы звяртаемся да ўсіх міжнародных арганізацый не прызнаць сапраўдным толькі што праведзены ў Беларусі перапіс насельніцтва.

***Аляксей Саламонаў,***
***прафесар, старшыня Менскай гарадской рады ТБМ імя Францішка Скарыны.***

# Беларуская мова самая лепшая

**Добры дзень, "Наша слова"!**

30 студзеня мы пабывалі на свяце, прысвечаным падвядзенню вынікаў конкурсу сачыненняў "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай"... Мы былі самымі малодшымі ўдзельнікамі конкурса. 10 вучняў з нашага 4 "Б" класа менскй школы № 82 адправілі ўвосень свае сачыненні, і цяпер нас запрасілі на свята. Яно праходзіла ў школе № 2, якая знайходзіцца ў Серабранцы. У вялікай зале сабралася вельмі многа гасцей з розных гарадоў і вёсак Беларусі.

Сустрэчу адкрыў віцэ-прэзідэнт Таварыства беларускай школы Алесь Лозка. Ён расказаў пра тое, як праходзіў конкурс, пра склад журы. Аказваецца, на конкурс школьнікі даслалі каля тысячы творчых работ. Самымі актыўнымі былі вучні школы № 2 г. Клецка, школы № 36 г.Гомеля, вучні некалькіх менскіх школ. Таварыства беларускай школы падрыхтавала каля 600 грамат для ўдзельнікаў конкурсу, настаўнікаў, школ.

На сцэну запрасілі артыстаў з менскай школы № 102. Цудоўны настрой быў у зале пасля выступлення фальклорнага ансамбля "Гасцінец". Хлопчыкі і дзяўчынкі выступалі ў прыгожых беларускіх касцюмах. Яны так добра гралі на народных інструментах, танцавалі і спявалі!

Потым арганізатары конкурса пачалі ўзнагароджваць пераможцаў. Школьнікі атрымалі граматы і падарункі: пуцёўкі на адпачынак за мяжу, у лагер "Зубраня", гадзіннікі, кнігі, і іншыя.

Пераможцамі конкурса сталі: Алёна Лютко (11 кл.), Ніна Мяцельская (10 кл.), Мікалай Хіла (9 кл.), Максім Каржыцкі (8кл.), Марына Лукашэвіч (7 кл.), Алёна Нікіціна (6 кл.).

Мы таксама атрымалі ўзнагароды за актыўны ўдзел у конкурсе: граматы і падарункі.

Я вельмі рада, што ўдзельнічала ў гэтым конкурсе. Калі пішаш сачыненне пра родную беларускую мову, думаеш і пра мову, і пра радзіму, і пра сябе. І так хочацца перадаць сваю любоў да мовы людзям! Каб беларусы прачнуліся ад доўгага сну і зразумелі, што іх мова — самая лепшая, іх зямля — самая прыгожая.

Вялікі дзякуй арганізатарам конкурсу "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай..."! Чым больш будзе такіх школьнікаў і настаўнікаў, якіх мы бачылі на свяце, тым хутчэй мы зможам сказаць, што жыве беларуская мова, а значыць, жыве Беларусь.

***Таня Рымашэўская,***
***вучаніца 4 "Б"класа сярэдняй школы №82, г.Менск.***

# Справаздача

## рэдакцыі газеты "Наша слова" VI з'езду ТБМ.

Лідскі склад рэдакцыі газеты ТБМ "Наша слова" прыняў газету ў канцы кастрычніка 1997 года ў крытычнай сітуацыі. Пасля V з'езду ТБМ у сувязі са спыненнем фінансавання з боку дзяржавы газета перастала выходзіць. Была зліквідавана матэрыяльная база рэдакцыі, распушчаны асабовы склад. На з'ездзе не была пачута прапанова Лідскай гарадской рады ТБМ аб перадачы газеты ў Ліду.

На момант кастрычніцкай рады ТБМ 1997 года да ліквідацыі газеты заставалася менш месяца. Газета не ўключалася ў каталог падпіскі, траціўся паштовы індэкс і адмянялася рэгістрацыя.

Змеркаванне рады, аб пераводзе газеты ў Ліду было своечасовым. Выйшаў першы лістападаўскі нумар. Мы засталіся ў каталогу, аб'явілі падпіску і пачалі фармаваць рэдакцыю. На этапе фармавання былі зменены тры наборшчыкі, чатыры вёрстчыкі пакуль недзе з шостага лідскага нумара (№2 за 1998 г.) удалося сфармаваць сучасны склад. Вясной 1998 года быў зменены расфасоўшчык і з таго часу склад рэдакцыі стабільны.

У рэдакцыі не было ні аднаго квадратнага метра плошчы, ні адной адзінкі тэхнікі. Прыйдзе лепшы час і мы паімённа назавём усіх, хто стаў на абарону роднага слова ў гэтых умовах, назавём тых, чыя тэхніка арандавалася, хто вучыў персанал, хто фінансаваў першыя нумары, хто аказваў інфармацыйную і матэрыяльную падтрымку на працягу ўсяго гэтага часу.

Пакуль што мы можам адкрыта сказаць "дзякуй" толькі Гарадзенскай абласной радзе БСДП "Народная грамада", якая перадала адзіны свой кампутар рэдакцыі "Нашага слова", чым паклала пачатак развіццю матэрыяльнай базы, а таксама Свабоднаму прафсаюзу Беларусі, "Хартыі-97", яшчэ раз БСДП "Народная грамада", сотням арганізацый і тысячам прыватных асобаў, якія падтрымлівалі газету матэрыяльна.

Газета "Наша слова" ў сілу склаўшайся матэрыяльнай і арганізацыйнай сітуацыі была спланавана, як "народная газета" – газета ў якой больш 90% матэрыялаў – гэта матэрыялы чытачоў газеты. Такі падыход вызначыў і змест газеты. Увазе чытачоў прапануюцца тыя тэмы, якія непакояць, якія цікавяць і хвалююць тых жа чытачоў.

Мова газеты – мова Коласа, або звычайная "рафінаваная" літаратурная мова з рэдкімі адхіленнямі.

Вялікая ўвага была ўдзелена пашырэнню сеткі распаўсюджвання газеты. Падпіска была абвешчана з першага квартала 1998 года і прайшла ўжо шэсць цыклаў. Развіццё сеткі падпіскі відно з табліцы. З вялікай удзячнасцю адзначаю актыўную пазіцыю ў гэтым пытанні Сакратарыята ТБМ і, асабліва, сп. Алега Трусава, многіх гарадскіх і раённых радаў, асобным актывістам, Беларускай асацыяцыі журналістаў. Практыка "падпісной інтэрвенцыі", якую праводзілі і праводзяць гэтыя арганізацыі далі, даюць і будуць даваць плён. Заміж 548 падпісчыкаў у студзені 1998 года мы маем сёння 2 792 і дакладна ведаем, што ў траўні будзе за 2 800. Наклад з 2000 вырас да 4300-4600.

Мы размясцілі газету ў шапіках "Саюздруку" ва ўсіх раёнах, дзе працуе "Саюздрук". Гэта 114 раёнаў са 117. І хоць не ўсюды газета купляецца, хоць мы нясём страты, мы не пакідаем гэтых раёнаў. Хоць тры асобнікі на раён, але паступае. Будуць заяўкі на большую колькасць – будзе больш. У сістэму "Саюздруку" ўсяго паступае каля 1300 асобнікаў.

Газета "Наша слова" эканамічна стратная газета. Без датацый мы існаваць не можам. Мы свядома трымалі нізкія цэны дзеля пранікнення на рынак. Але выхад, у асноўным, на 8-міпалосны аб'ём патрабуе павялічэння цаны. Пасля з'езду рэдактар і Сакратарыят павінны будуць выпрацаваць стратэгію выдання: ці значны пад'ём цаны, да ўзроўню аналагічных газет, ці выдзялення значных датацый. Іншых кірункаў мы не бачым.

Перад з'ездам выйшаў 400-ты нумар газеты "Наша слова" ад моманту заснавання і 70-ты нумар у Лідзе. Усе гэтыя 70 нумароў мы былі ў пошуку. Цалкам былаператасавана рэдкалегія. Мяняліся рубрыкі. Слабымі месцамі застаецца вялікі работны час (вялікі час ад падзеі да асвятлення ў газеце) і вялікая колькасць граматычных памылак. Нам удалося дасягнуць таго, што газета пачала дайходзіць да падпісчыкаў раней. Так апошнія нумары ў Лідзе ў паштовых скрынках -у аўторак, у Менску- у чацвер. Раней у Менск газета трапляла бліжэй да суботы. І я спадзяюся, што мы вырашым і праблему памылак.

Так выглядаюць асноўныя вынікі дзейнасці лідскага варыянта рэдакцыі газеты "Наша слова". Мы разумеем, што час усяроўна паставіць пытанне пра вяртанне газеты ў Менск. Але гэта ўжо будзе іншы час.

*Станіслаў Суднік.*

# Вынікі падпіскі на газету "Наша слова" за 1998-1999 г.г.

| | 1998 г. | | | | 1999 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | студз. | крас. | ліп. | кастр. | студз. | крас. |
| **Гарадзенская вобласць:** | | | | | | |
| Берастaвіца | 1 | 3 | - | 2 | 1 | - |
| Ваўкавыск гор. | 4 | 7 | 7 | 8 | 11 | 13 |
| Воранава р.в. | 1 | 9 | 3 | 4 | 8 | 5 |
| Гародня гор. | 26 | 43 | 35 | 103 | 76 | 117 |
| Гародня РВПС | 3 | 10 | 7 | 9 | 24 | 25 |
| Дзятлава р.в. | - | 16 | 6 | 9 | 19 | 12 |
| Зэльва р.в. | 1 | 3 | 3 | 1 | 1 | 4 |
| Іўе р.в. | - | 5 | 2 | 1 | 1 | 4 |
| Карэлічы р.в. | 4 | 3 | 4 | 5 | 5 | 4 |
| Масты р.в. | 5 | 6 | 7 | 9 | 10 | 24 |
| Наваградак гор. | 4 | 6 | 3 | 12 | 16 | 62 |
| Астравец р.в. | - | 1 | 2 | - | 3 | 4 |
| Ашмяны р.в.. | 19 | 22 | 21 | 26 | 10 | 11 |
| Смаргонь гор. | 4 | 5 | 5 | 6 | 6 | 5 |
| Слонім гор. | 10 | 7 | 4 | 6 | 14 | 13 |
| Свіслач р.в. | 3 | 2 | 3 | 4 | 5 | 4 |
| Шчучын р.в. | - | 5 | 2 | 7 | 11 | 13 |
| Ліда | 52 | 109 | 27 | 30 | 53 | 55 |
| **Усяго:** | **137** | **262** | **141** | **242** | **274** | **375** |
| **Менская вобласць:** | | | | | | |
| Беразіно р.в. | 1 | 2 | 2 | 4 | 4 | 10 |
| Барысаў гор. | 2 | 5 | 6 | 9 | 11 | 14 |
| Вілейка гор. | - | - | 5 | 8 | 10 | 70 |
| Валожын гор. | 4 | 5 | 6 | 8 | 8 | 12 |
| Дзяржынск р.в. | 3 | 5 | 4 | 2 | 2 | 6 |
| Жодзіна гор. | 3 | 5 | 6 | 9 | 10 | 9 |
| Клецк р.в. | - | - | 2 | 1 | 1 | 4 |
| Крупкі р.в. | - | - | - | - | - | - |
| Капыль р.в. | 1 | - | - | - | 2 | 1 |
| Лагойск р.в. | - | 10 | 5 | 8 | 9 | 9 |
| Любань р.в. | 1 | 2 | 5 | 11 | 8 | 5 |
| Менск гор. | 220 | 346 | 366 | 505 | 603 | 829 |
| Менск РВПС | 4 | 6 | 3 | 8 | 11 | 17 |
| Маладэчна гор. | 6 | 8 | 21 | 32 | 75 | 43 |
| Мядзель | 3 | 3 | 4 | 8 | 5 | 7 |
| Пухавічы РВПС | 3 | 7 | 7 | 12 | 9 | 12 |
| Нясвіж р.в. | 3 | 2 | 1 | 1 | 6 | 21 |
| Смалявічы р.в. | - | 1 | 1 | 1 | 2 | 2 |
| Слуцк гор. | 6 | 5 | 10 | 19 | 39 | 20 |
| Салігорск гор. | - | 6 | 7 | 11 | 11 | 14 |
| Ст.Дарогі р.в. | 1 | 1 | 2 | 3 | 1 | 3 |
| Стоўбцы р.в. | 2 | 3 | 4 | 4 | 5 | 7 |
| Узда р.в. | - | 3 | - | 1 | 3 | 2 |
| Чэрвень р.в. | 3 | 2 | 4 | 5 | 5 | 8 |
| Фаніпаль | - | 1 | - | 1 | 1 | - |
| **Усяго:** | **266** | **428** | **471** | **671** | **841** | **1125** |
| **Магілёўская вобласць:** | | | | | | |
| Бабруйск гор. | 2 | 2 | 5 | 3 | 1 | 37 |
| Бабруйск РВПС | - | - | - | 4 | 18 | 19 |
| Бялынічы р.в. | - | - | - | - | - | 3 |
| Быхаў р.в. | - | - | - | 1 | - | 2 |
| Глуск р.в. | - | - | - | - | - | 1 |
| Горкі гор. | 12 | 2 | 5 | 36 | 11 | 46 |
| Дрыбін р.в. | - | - | - | 1 | 1 | 2 |
| Кіраўск р.в. | - | - | - | - | - | 2 |
| Клічаў р.в. | - | - | - | - | - | 1 |
| Краскаполле р.в. | - | - | - | - | - | 1 |
| Крычаў | - | - | - | - | - | 1 |
| Клімавічы р.в. | 2 | 6 | 14 | 39 | 10 | 36 |
| Касцюковічы р.в. | 1 | 1 | 1 | 16 | 2 | 17 |
| Круглае р.в. | - | - | - | 1 | 13 | 17 |
| Мсціслаў р.в. | - | - | 1 | 26 | 3 | 2 |
| Магілёў гор. | 7 | 14 | 15 | 17 | 48 | 53 |
| Магілёў РВПС | - | - | 1 | 2 | 45 | 36 |
| Асіповічы гор. | 4 | 3 | 6 | 5 | 43 | 50 |
| Слаўгарад р.в. | - | 2 | - | - | 1 | 46 |
| Хоцімск р.в. | - | - | - | - | - | 2 |
| Чэрыкаў р.в. | - | - | - | - | - | 1 |
| Чавусы р.в. | - | - | - | - | - | 1 |
| Шклоў р.в. | - | - | - | 1 | 5 | 8 |
| **Усяго:** | **28** | **30** | **48** | **152** | **201** | **384** |

| | 1998 г. | | | | 1999 г. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | студз. | крас. | ліп. | кастр. | студз. | крас. |
| **Віцебская вобласць:** | | | | | | |
| Бешанковічы р.в. | 1 | - | - | 3 | - | 2 |
| Браслаў р.в. | 6 | 9 | 5 | 3 | 1 | 2 |
| Віцебск гор. | 15 | 19 | 20 | 24 | 31 | 33 |
| Віцебск РВПС | 1 | 1 | 1 | 3 | 4 | 3 |
| Верхнедзвінск р.в. | 8 | 8 | 11 | 9 | 1 | 2 |
| Глыбокае р.в. | - | 5 | 7 | 10 | 11 | 19 |
| Гарадок р.в. | 1 | 2 | 1 | 2 | 1 | 1 |
| Докшыцы р.в. | - | 1 | 1 | - | 2 | 3 |
| Дуброўня р.в. | - | 2 | 2 | - | 2 | 2 |
| Круляўшчызна | - | 2 | 1 | 1 | 2 | 2 |
| Ліёзна р.в. | - | - | - | - | - | 3 |
| Лепель р.в. | - | - | - | - | - | 1 |
| Міёры р.в. | 3 | 4 | 4 | 4 | 5 | 8 |
| Наваполацк гор. | 4 | 9 | 8 | 13 | 10 | 12 |
| Ворша гор. | - | 1 | 2 | 7 | 17 | 30 |
| Полацк гор. | 3 | 13 | 20 | 32 | 48 | 48 |
| Паставы р.в. | - | 3 | 4 | 5 | 6 | 10 |
| Расоны р.в. | - | - | - | - | 1 | 1 |
| Сянно р.в. | - | - | - | - | - | 2 |
| Талочын р.в. | 1 | 1 | - | - | 3 | 2 |
| Ушачы р.в. | 2 | 2 | 2 | - | 3 | 6 |
| Чашнікі р.в. | 1 | 1 | 2 | 2 | 3 | 2 |
| Шаркоўшчына р.в. | 2 | 2 | 2 | 2 | 3 | 3 |
| Шуміліна р.в. | 1 | 1 | 2 | 1 | 1 | 2 |
| **Усяго:** | **49** | **86** | **95** | **121** | **155** | **199** |
| **Берасцейская вобласць:** | | | | | | |
| Баранавічы р.в. | 3 | 17 | 14 | 15 | 18 | 35 |
| Бяроза р.в. | - | 7 | 6 | 9 | 5 | 7 |
| Белаазёрск р.в. | - | - | - | - | - | 1 |
| Бярэсце гор. | 8 | 7 | 9 | 10 | 17 | 18 |
| Ганцавічы р.в. | 2 | 4 | 3 | 2 | 3 | 1 |
| Драгічын р.в. | - | - | 1 | 2 | - | 1 |
| Жабінка р.в. | - | - | - | - | 1 | 2 |
| Іванава р.в. | 2 | 1 | 2 | 1 | 2 | 3 |
| Івацэвічы р.в. | - | - | - | 3 | 3 | 5 |
| Камянец р.в. | 3 | 2 | 1 | 2 | 33 | 71 |
| Кобрын гор. | 4 | 3 | 2 | 29 | 14 | 15 |
| Лунінец гор. | - | 1 | 4 | 4 | 3 | 5 |
| Ляхавічы р.в. | 1 | 1 | 1 | 1 | 1 | 2 |
| Маларыта р.в. | - | - | 1 | 22 | 4 | 3 |
| Пінск гор. | 2 | 3 | 4 | 27 | 44 | 87 |
| Пружаны р.в. | - | 1 | 1 | 2 | 2 | 6 |
| Столін р.в. | 3 | 3 | 1 | 42 | 8 | 116 |
| **Усяго:** | **28** | **50** | **50** | **171** | **158** | **378** |
| **Гомельская вобласць:** | | | | | | |
| Буда-Кашалёва | 2 | 2 | 2 | 4 | 1 | 3 |
| Брагін р.в. | 1 | 1 | 1 | 1 | 2 | 5 |
| Ветка р.в. | - | - | 1 | 1 | 2 | 2 |
| Гомель гор. | 17 | 19 | 38 | 48 | 47 | 60 |
| Гомель РВПС | 1 | 1 | 2 | 2 | 2 | 2 |
| Добруш р.в. | 1 | 1 | 2 | 2 | 2 | 5 |
| Ельск р.в. | - | - | - | - | 2 | 2 |
| Жыткавічы р.в. | - | - | 3 | 13 | 10 | 26 |
| Жлобін гор. | - | 6 | 3 | 8 | 32 | 52 |
| Калінкавічы гор. | 1 | 1 | - | 1 | 2 | 20 |
| Карма р.в. | - | - | 1 | 1 | 2 | 3 |
| Лельчыцы р.в. | - | - | 1 | - | - | 1 |
| Лоеў р.в. | - | - | - | 2 | 1 | 2 |
| Мазыр гор. | 3 | 4 | 3 | 2 | 31 | 37 |
| Акцябарскі р.в. | - | - | - | 1 | - | 1 |
| Нароўля р.в. | - | - | - | - | - | 1 |
| Петрыкаў р.в. | 1 | - | 2 | 1 | 30 | 49 |
| Рэчыца гор. | 3 | 3 | 3 | 6 | 6 | 4 |
| Рагачоў гор. | - | - | 2 | 3 | 4 | 6 |
| Светлагорск гор. | 9 | 9 | 12 | 15 | 6 | 43 |
| Хойнікі р.в. | - | 1 | - | - | - | 4 |
| Чачэрск р.в. | 1 | 1 | 2 | 2 | - | 3 |
| **Усяго:** | **40** | **49** | **78** | **113** | **182** | **331** |
| **Усяго па краіне** | **548** | **905** | **883** | **1470** | **1811** | **2792** |

Газета "Наша слова", па нашых звестках, адзіная газета на Беларусі, якая дае такую падрабязную інфармацыю пра стан падпіскі. Публікацыя гэтай інфармацыі не вынікае з нутраных патрэбнасцяў рэдакцыі, але мы лічым гэтую інфармацыю крайне важнай для кіраўніцтва ТБМ, кіраўніцтва абласных арганізацый, а таксама гарадскіх і раённых радаў, безумоўна, калі яны рэальна працуюць. Не трэба быць вялікім аналітыкам, каб зразумець, што калі ў Крупках за паўтара года не выпісалі ні аднаго асобніка "Нашага слова", то надзвычай праблематычна казаць пра існаванне і нейкую дзейнасць там арганізацыі ТБМ. Не трэба сумнявацца і ў тым, што белыя плямы ў табліцы па Магілёўскай вобласці, па шэрагу раёнаў Віцебскай і Гомельскай абласцей выкліканы не толькі тым што газета "Наша слова" не цікавая і яе не хочуць чытаць. Гэтыя белыя плямы яшчэ і белыя плямы ў структуры ТБМ. Можна з дакладнасцю да 99 працэнтаў казаць, што ў гэтых раёнах арганізацый ТБМ няма. Дай Бог мне памыліцца. Разам з тым з'яўленне ў раёне трох падпісчыкаў дае падставы для абласнога і рэспубліканскага кіраўніцтва звярнуць увагу на гэты раён у плане адраджэння ці стварэння там структураў ТБМ. Мы з задавальненнем друкавалі б і звесткі пра продаж нашай газеты ў шапіках "Белсаюздруку", але атрымаць такую інфармацыю з усёй краіны практычна немагчыма.

*Станіслаў Суднік.*





# Цяжкі роздум напярэдадні 6-га з'езда Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны



### 1.Чым выкліканы гэты роздум?

Усякі з'езд любога грамадскага аб'яднання прызначаны вырашаць на аснове аналізу рэчаіснасці пытанні галоўных дзеянняў у бягучым пасляз'ездаўскім перыядзе. Пры гэтым абавязкова ўдакладняецца стратэгічная сутнасць тых дзеянняў, тактычныя прыёмы іх рэалізацыі, галоўныя кірункі намаганняў.

Такая неадкладная неабходнасць існуе і для ТБМ у яго сучасных умовах. Аднак можна сказаць, што неабходныя адказы можна знайсці ў Статуце Таварыства. Але ён прыняты на ўстаноўчым з'ездзе ТБМ яшчэ 27.6.1989г. у абставінах, у многім не адпаведных цяперашнім рэаліям адносін да беларускай мовы. Праўда, 23.6.1998г у яго тэкст унесены некаторыя змены. Толькі ж прымаліся яны не на з'ездзе, а Рэспубліканскай Радай ТБМ. Апроч таго і пасля гэтых адносна нядаўніх удакладненняў названыя адмоўнасці ў грамадстве ўзмацніліся. Не ў лепшы для нас бок адбыліся іншыя змены. Пад іх уплывам зараз акрэслена відавочным стала імклівае нарастанне пагрозы поўнага знікнення беларусаў у этнічных адносінах. Яно – вынік працягу наўпроставых ці ўскосных дзеянняў вярхоўных уладаў Беларусі начале з самім прэзідэнтам, па яго зыходнай ініцыятыве і пад ягоным непасрэдным кіраўніцтвам. У тых дзеяннях вымалёўваюцца антычалавечыя прыёмы: робіцца ўсё магчымае, каб мова стала зусім непатрэбнай грамадству, каб яна не мела ўжытку на дзяржаўным узроўні, каб выклікаць у жыхароў Рэспублікі пачуццё непавагі да яе як непатрэбнай, нават перашкоднай рэчы. Адзначым, самі беларусы нацкоўваюцца супраць сваёй роднай мовы. Яскравы апошні прыклад таму -- бессаромная, антыбеларуская акцыя "переписи населения Республики Беларусь" (гл. артыкул "Гэта не сапраўдны перапіс насельніцтва, а павярхоўная акцыя, скіравана супраць этнічных і дзяржаўных асноў беларускасці. Таму яго вынікі будуць абавязкова адменены" – "Наша слова" за 3.03. 1999г.). Больш таго, паскоранымі тэмпамі знішчаюцца асновы самастойнай беларускай дзяржаўнасці, без чаго ў складўшыхся ўмовах не могуць захавацца і карані беларускасці (спалучэнне мовы з самабытнасцямі сукупнага беларускага характару, асноў культуры, адносін да навакольнага асяроддзя, асаблівасцяў жыццязабяспячэння з улікам сваіх прыродных, геаграфічных, геапалітычных і інш. умоў). Беларусь закрылася велізарнай смяротначорнай ценню мацяршчынна-расейскай асіміляцыі. Усё адзначанае адмоўна ўплывае на этнапсіхіку саміх беларусаў, выклікае хуткае скарачэнне беларускамоўных школ і класаў, пагаршае магчымасці працы ТБМ настолькі, што становіцца нярэдка праблемай сфармаваць дзейсныя яго раённыя суполкі ў самой сталіцы Рэспублікі. Такога этнічнага злачынства ва ўмовах сучаснасці свет сапраўды яшчэ не бачыў. Выбіццё ж з агульначалавечага ланцуга суполнасці народаў 12-мільённага звяна беларусаў прынясе непапраўную шкоду магчымасцям чалавецтва самаўдасканальваца праз дабразычлівае ўзаемадзеянне этнічных і нацыянальных рознасцяў.

Не гледзячы на адзначанае, на старонцы 3 "Статута ТБМ ..." чытаем: "найвышэйшай мэтай стварэння і існавання Таварыства беларускай мовы з'яўляецца аднаўленне ў грамадстве стаўлення да беларускай мовы, як да нацыянальнай святыні, адраджэнне на гэтай падставе гістарычнай памяці, традыцыйнай культуры і сімволікі нашага народа". А між тым адносіны да мовы, як да святыні можна захаваць і пры яе знікненні, праз праявы адпаведных успамінаў. Таму галоўнай мэтай ТБМ павінна быць стварэнне ўмоў для захавання і дзейснага развіцця беларускай мовы, як асновы збераження і развіцця беларускага этнасу, стварэння на яго аснове трывалай беларускай нацыі, як ганарлівага ўваходжання ў цывілізаваную супольнасць на правах роўнасці і на аснове прынцыпу: праз этнічна-нацыянальнае – да агульначалавечага, ад агульначалавечага – да этнічна-нацыянальнага. Гэта павінна быць вядома і нашым дзяржаўным уладам, беларускаму і сусветнаму грамадству. Бо яно вынікае з правоў чалавека і этнічных правоў усіх народаў на захаванне і развіццё ў адпаведнасці з мэтамі Бога.

Другая прычына роздуму выклікана тым, што традыцыйныя метады агітацыі за беларускую мову на аснове таго, што яна прыгожая, лагодная не спрацоўваюць належным чынам у выніку моцнага адваротнага націску з боку вярхоўных уладароў Беларусі. Не даюць жаданага эфекту пікеты, мітынгі і дэманстрацыі ў сучасным выглядзе пры іх агульнай беззумоўнай карыснасці. Таму патрэбны новыя дадатковыя прыёмы змагання: за ўзняцце самасвядомасці беларускага народа, за абуджэнне ў ім адчування неабходнасці змагацца за ўратаванне нашага роду беларускага, за прабуджэнне пачуцця гістарычнай адказнасці ў кіраўнікоў буйных інтэлектуальных арганізацый (ВНУ, НДУ, праектных, вытворчых, навукова-вытворчых інстытутаў), а таксама дзяржаўных урадавых установ і прадпрыемстваў любой формы ўласнасці.

### 2.Мова, палітыка і апазіцыя

Без вызначэння сувязі паміж гэтымі паняццямі і без выкарыстання яе сутнасці не можа быць станоўчай вышэй адзначаная мэтанакіраваная дзейнасць ТБМ у сучасных умовах. Бо палітыка ў звычайным разуменні – гэта змест поглядаў і прынцыпаў жыццядзейнасці ў адпаведнасці з імі асобнага чалавека, сям'і, любога калектыву, дзяржавы. У "Словаре русского языка" (С.И. Ожегов. Москва. 1990г., стар.552) аб тым запісана наступнае: *"образ действий, направленных на достижение чего-нибудь, определяющих отношения с людьми"*. У такім разуменні палітыкі ТБМ не можа быць па-за палітыкай. Але нас прывучалі пад палітыкай разумець *"сферу деятельности..., ядром которой является проблема завоевания, удержания и использования государственной власти..."* ("Советский энциклопедический словарь". Москва. 1985 г., стар. 1 026). У адпаведнасці з адзначаным ТБМ не з'яўляецца палітычнай арганізацыяй, бо і ў думках не мела і не мае *"завоевание ... государственной власти"*. Але ж, як паказана намі ў газеце "Пагоня" ад 4.8.1998г., *"мова не можа быць па-за глабальнай палітыкай"*. Моўныя справы *"любой цывілізаванай краіны ўваходзяць у склад найгалоўнейшых задач не толькі дзяржаўнай, але і глабальнай палітыкі"*. Таму што, як лічыць Марына Ўладзі, *"язык ведь не просто набор слов и грамматики – это целый культурный пласт"* ("Комсомольская правда" ад 16.03.1999г.). Ад сябе дадамо: *"Кожная мова, як сродак мыслення, мае ў супольнасці толькі свае, уласцівыя толькі ёй асаблівасці ўспрыяцця прыродных і грамадскіх працэсаў і з'яў"*. Таму ёю фармуецца сутнасць поўнага этнасу, поўнай нацыі". Чалавецтва пачынае разумець гэта. Адпаведна ўжо невыпадкова сцвярджаецца: *"...пришла очередь наднационального мифа о национальном языке – одного из ключевых политических мифов"*. Бо *"миф о языке обладает ощутимой энергией государственного строительства"* ("Известия" от 3.03.1999г.). Адпаведна на аснове "великого и могучего русского языка" немагчыма пабудаваць сапраўды самастойную, менавіта **беларускую** дзяржаву. *"Товарищ Сталин хорошо понимал государственность роли русского языка"*, як стальнога абруча Савецкай імперыі. У выніку *"одна из последних его теоретических штудий была посвящена марксизму и вопросам языкознания"* ( Тая ж "Известия"). Менавіта з гэтай нагоды *" в начале 90-х годов учреждался Совет по русскому языку при президенте Российской Федерации"*. Тое ж зроблена ў Францыі, ЗША і іншых дзяржавах. Адпаведна і ТБМ не можа быць па-за беларускадзяржаўнай моўнай палітыкай. Інакш яно будзе проста штучным кароткатэрміновым стварэннем. Бо зараз без самастойнай беларускай дзяржаўнасці не зможа захавацца і развівацца беларуская мова. У гэтым сэнсе проста немагчыма згадзіцца з рашучай пазіцыяй кіраўніцтва рэспубліканскай рады ТБМ аб тым, што *"мова не павінна быць у апазіцыі"* ("Наша слова" ад 13.01. 1999г.), таму, што, **калі мова не будзе ў апазіцыі да ўсіх сваіх ворагаў, якія знішчаюць нават яе карані, то яе хутка і назаўжды не стане**. Не патрэбна будзе і ТБМ. Адпаведна мы павінны называць у якасці галоўных вінаватых у сучасных варожых адносінах да беларускай мовы не якіхсьці міфічных чыноўнікаў, якія выконваюць чужыя загады, а таго, хто сапраўды з'яўляецца першым галоўным ворагам. Бо калі хлусіць у дыягназе сур'ёзнай хваробы, то чалавек у даным выпадку – у вобразе мовы проста памрэ.

### 3. У чым жа выйсце? Якія дзеянні па ўратаванні беларускай мовы з'яўляюцца зараз першаснымі?

Адзін чалавек, у дадзеным выпадку А.Лукашэнка, настолькі ўсё заблытаў не толькі ў адносінах да беларускай мовы, але і ва ўсім грамадстве, настолькі раскалоў яго, настолькі выкарыстаў прыёмы ўзбуджэння ў людзях самага адмоўнага, настолькі супрацьпаставіў свае непрадказальныя дзеянні заключэнням нармальнай логікі, што нават геній можа з глузду збіцца пры пошуках адказаў на пастаўленыя пытанні. Вобразна ж відаць толькі адно: **мы павінны змагацца любымі апраўданымі метадамі за захаванне зыходных каранёў свайго беларускага роду!** Адсюль вынікаюць наступныя неабходнасці:

— Звярнуць праз ААН увагу ўсяго цывілізаванага чалавецтва на прадсмяротны стан беларускай мовы. Для гэтага занесці яе ў чырвоную кніжку і аб'явіць мовай года.

— Разглядзець пытанне аб узбуджэнні міжнароднай судовай справы супраць прэзідэнта А. Лукашэнкі за зневажанне беларускай мовы – асновы беларускага этнасу.

— Рабіць усё пасільнае ў гэтых умовах для ўзняцця этнічна-нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа, для развіцця разумення неабходнасці захавання беларускай мовы, шукаць пры гэтым новыя, нетрадыцыйныя метады, як адзначана вышэй.

— Дабівацца неадкладнага пераводу на беларускамоўнае навучанне некалькіх існых вышэйшых навучальных устаноў праз рашэнне іх вучоных Саветаў (Менскага і Гарадзенскага педагагічных універсітэтаў, універсітэта культуры, Беларускага тэхналагічнага ўніверсітэта, аднаго з недзяржаўных інстытутаў).

— Стварыць мэтанакіраваныя тлумачальныя распрацоўкі аб параўнальнай сутнасці **беларускай мовы**, беларускага этнасу, неабходнасці іх захавання і развіцця, патрэбнасці стварэння самастойнай, трывалай беларускай нацыі.

— Лічыць неабходным праводзіць навуковыя даследаванні па пытаннях дзейнасці ТБМ і ўзняцця этнічна-нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа.

— Рэалізаваць прапановы аб стварэнні на грамадскіх пачатках пасады навуковага кіраўніка (кансультанта ТБМ з ліку вядучых гістарычных навукоўцаў) накшталт прафесара Лыча Леаніда Міхайлавіча.

***Аляксей Саламонаў, прафесар, старшыня Таварыства беларускай мовы г.Менска.***

# Беларускай мове — жыць

Сёння 9 студзеня, і я атрымаў першы нумар газеты "Наша слова". Спадзяюся, што буду атрымліваць і ўсе наступныя.

Уважліва прачытаў газету ад першай да апошняй старонкі.

Паколькі ў тым ці іншым выглядзе ўвесь нумар прысвечаны стану беларускай мовы, мяне зацікавіла парада спадарыні Ангеліны Масюта з Менска. Вось што яна раіць:

"Калі мы хочам захаваць і даць росквіт нашай мове, трэба каб і "Наша слова" друкавалася на мове Тарашкевіча, на сапраўднай беларускай мове, якая не зведала сталінскага бота".

Як незвычайна проста і лёгка "даць росквіт нашай мове"!

Няхай прабачыць спадарыня Масюта, але справа з захаваннем і росквітам беларускай мовы намнога складаней.

І калі ўжо на працягу прынамсі двух стагоддзяў ні паланізацыя, ні русіфікацыя не змаглі вынішчыць карані беларускасці, з якіх на працягу гэтых стагоддзяў з'яўляліся на змену знішчаным новыя парасткі беларускага слова, то гэта можа сведчыць толькі аб адным — не забіць, не заглушыць беларускую нацыянальную ідэю.

Але менавіта гэта сведчыць і аб тым, што каб гэтыя парасткі не гінулі, каб яны ўмацоўваліся, патрэбна добрая глеба. А вось гэтай добрай глебы, як гэта не крыўдна, не было на працягу гэтых стагоддзяў, няма сёння, не будзе і заўтра.

Не будзе да таго часу пакуль побач з намі будуць працягваць атручваць глебу смярдзючыя здані ідэалагічнага Чарнобыля, выбухнуўшага ў кастрычніку 1917 года.

Гэта яны пераўтварылі абсалютную большасць працавітага беларускага народа ў насельніцтва, а ад насельніцтва да манкрутаў — адзін крок.

Да той пары пакуль кожная трэцяя раённая газета будзе ў сваёй назве мець слова "Ленін" альбо "Ільіч", да той пары пакуль на ўсёй Беларусі будуць ахоўвацца дзяржавай помнікі Леніну — будзе працягвацца атручванне асяроддзя ў якім не змогуць умацавацца парасткі беларускасці і вырасці ў магутнага волата.

Гэта наша рэчаіснасць і зменіць яе тым, што "Наша слова" пачне друкавацца на "тарашкевіцы" — немагчыма. Дый не гэта сёння галоўнае.

Галоўнае сёння — каб кожны, хто сэрцам разумее, што адзіны падмурак будучыні дэмакратычнай незалежнай Беларусі ёсць нацыянальная ідэя даводзіў гэта ўвесь час у першую чаргу тым, хто вагаецца. А сярод гэтай катэгорыі людзей большасць расейскамоўных.

Няхай яны застаюцца расейскамоўнымі. Але трэба рабіць усё, каб яны зразумелі, што слова "нацыяналіст" і "нацыст" — гэта не адно і тое ж, як аб гэтым крычаць з'ехаўшыя з глузду ГУЛАГ-аўскія ветэраны ля помніка Леніну, трымаючы ў руках партрэты Сталіна.

Трэба нястомна тлумачыць, што адстойванне незалежнасці Беларусі — гэта ні ў якім разе не азначае ўзвядзенне нейкіх перашкод для сапраўднага сяброўства з Расеяй.

Як гэта рабіць — кожны вырашае сам у залежнасці ад абставін.Хтосьці скажа трапнае слова ў чарзе, хтосьці ў гутарцы з суседзямі, абмяркоўваючы тую ці іншую падзею. Шляхоў шмат.

І як маленькія струменьчыкі вясной зліваюцца ў ручаі, а ручаі поўняць магутнай сілай рэкі, так і маленькія намаганні кожнага паасобку ў справе адраджэння абавязкова прывядуць усіх разам да поспеху.

Ну а тым, хто сёння зневажае маю мову, маю гістарычную спадчыну, хто адмаўляе мне ў праве жыць у незалежнай дзяржаве Беларусь, хачу напомніць, што ёсць катэгорыя злачынстваў на якую не распаўсюджваецца тэрмін даўнасці. Сярод такіх злачынстваў на першым месцы стаіць садзейнічанне ў скасаванні суверэнітэту Дзяржавы і інкарпарацыя яе ў склад іншай дзяржавы. Памятайце пра гэта, таварышы русіфікатары!

***Фелікс Шкірманкоў, інвалід ВАВ II гр. г.Слаўгарад.***

# Дзейнасць падпольнай моладзевай антысавецкай арганізацыі ў г. Лідзе

*(Заканчэнне. Пачатак у № 14)*

С. Прытыцкі дакладваў у ЦК КП(б)Б аб тэрміновых мерапрыемствах абкама партыі ў сувязі з выкрыццём антысавецкай арганізацыі. Ён паведамляў, што *"Мною лично,* (гэта значыць С.Прытыцкім), *в известность поставлен начальник Облуправления МГБ тов. Сотский, которому предложено заняться указанной организацией; Предложено обкому ЛКСМБ провести закрытое бюро обкома и участников антисоветской организации исключить из рядов ВЛКСМ; созвать совещание в обкоме партии первых секретарей райкомов комсомола, на котором обсудить вопрос о повышении партийно-политической бдительности в комсомоле; на бюро обкома решено в первых числах июня провести пленум обкома КП (б) Б, на котором обсудить вопрос о выполнении постановления 5 пленума ЦК КП (б)Б и второй вопрос о руководстве комсомолом".*

З нагоды узгадваня С. Прытыцкім аб 5 пленуме ЦК КП(б)Б, адзначым, што пленум, які адбыўся ў Менску 9-10 ліпеня 1950 г. разглядаў пытанні аб працы камсамольскіх арганізацый Беларусі. На ім было адзначана, што *"ЦК КП(б)Б считает, что в работе ЦК, обкомов, горкомов и райкомов ЛКСМБ, первичных комсомольских организаций имели место серьёзные недостатки".*

Якія ж недахопы ў дзейнасці камсамольскіх арганізацыяў адзначыў Цэнтральны камітэт кампартыі Беларусі. Вышэйшае партыйнае кіраўніцтва лічыла, што *"... во многих комсомольских организациях республики неудовлетворительно поставлено дело политического воспитания молодежи. ЦК ЛКСМБ, многие обкомы, горкомы и райкомы партии не обеспечили высокого качества работы комсомольских политикол и кружков, допускают фактическое распадение кружков и политшкол".*І далей *"ЦК ЛКСМБ, многие обкомы, горкомы и райкомы комсомола плохо выполняют постановление 9 съезда ВЛКСМ о работе комсомола в школе, не рассматривают работу в школе как важнейший участок своей деятельности. Руководящие комсомольские органы не вникают в работу школ, слабо направляют деятельность комсомольских организаций на борьбу за глубокие и прочные знания, за укрепление дисциплины".* І, напэўна, самае галоўнае. Пленум прапанаваў *"Повысить действенность, остроту ленинской пропаганды среди молодежи западных областей республики, разоблачая в лекциях и докладах враждебную и подрывную деятельность остатков кулацко-националистических элементов и католического духовенства"* .

Па ўсёй бачнасці, рашэнні пленума былі абумоўлены і фактам барацьбы, якую вяла моладзь заходніх абласцей супраць савецкай улады. Вышэйшае партыйнае кіраўніцтва рэспублікі безумоўна вымушана было прымаць спешныя захады, каб перапыніць такую дзейнасць моладзі.

На жаль, у Нацыянальным Архіве Рэспублікі Беларусь пакуль не знойдзена дадатковых матэрыялаў аб далейшым лёсе ўдзельнікаў моладзевай падпольнай арганізацыі г. Ліды. Магчыма толькі меркаваць, што ўсе арыштаваныя па гэтай справе былі асуджаны на розныя тэрміны зняволення. Як склаўся іх далейшы лёс пасля прысудаў таксама невядома, як невядома і тое, хто з іх застаўся ў жывых па цяперашні час. Гэта тэма новага даследвання і ў першую чаргу даследвання скіраванага на запіс успамінаў сваякоў, родзічаў, ды магчыма і саміх удзельнікаў арганізацыі аб іх дзейнасці ў тыя гады.

Аналіз архіўных матэрыялаў, іншых крыніц дае падставы сцвярджаць, што гісторыя беларускага маладзёвага супраціву існаваўшаму рэжыму, барацьба за нацыянальныя ідэі ў пасляваенны час ў поўным аб'ёме не вывучана і не напісана. Бяспрэчна адно, разам з афіцыйнымі камсамольскімі арганізацыямі паралельна ствараліся і існавалі падпольныя антысавецкія маладзёвыя арганізацыі. Аналіз тых нешматлікіх звестак аб іх дзейнасці паказвае, што яны ствараліся пераважна стыхійна, асобна адна ад другой ў розных населеных месцах захаду Беларусі. Але падсумоўваючы ўжо назапашаны гісторыкамі матэрыял мажліва адзначыць, што ўзнікненне маладзёвых падпольных антысавецкіх арганізацый ў Слоніме, Наваградку, Паставах, Глыбокім, Мядзелі, Смаргоні і як распавядалася вышэй ў Лідзе – гэта не выпадковая з'ява, а звёны аднаго ланцужка – шырокамаштабнага маладзёвага супраціву на захадзе Беларусі, які патрабуе далейшага глыбокага і грунтоўнага вывучэння і аналізу.

Аналізуючы дзейнасць маладзёвых арганізацый неабходна зазначыць, што адметнай рысай маладзёвага антысавецкага супраціву з'яўлялася выключна мірная форма супраціву. Наўпроставай узброенай пагрозы існаму рэжыму моладзь не ўяўляла. Але найбольшая пагроза і гэта добра асэнсоўвала ўлада, заключалася ў тым, што вучні, студэнцкая моладзь думала інакш, дзейнічала інакш, верыла ў іншыя ідэалы чым астатнія людзі. Вось гэта і было самым страшным і небяспечным для рэжыму таму, што забараніць моладзі думаць таталітарная ўлада не магла. Менавіта пагэтаму ўлады так жорстка і бязлітасна распраўляліся з удзельнікамі ўсіх маладзёвых арганізацый.

... Так драматычна скончылася спроба распачаць падпольную дзейнасць маладзёвай антысавецкай арганізацыі ў г.Ліда. У адрозненні ад лёсаў былых камсамольскіх герояў савецкага часу ў гонар якіх узводзіліся помнікі, адкрываліся мемарыяльныя шыльды, называліся вуліцы і калгасы лёсам удзельнікаў падпольных моладзевых арганізацый сталася забыццё. Іх імёны, прозвішчы, дзейнасць на доўгія гады была выкрэслена з памяці. Але ж гэта, неад'емная частка нашай нацыянальнай гісторыі і тое, што маладзёвы антысавецкі супраціў вывучаецца, аналізуецца, узгадваецца мо ёсць пакуль яшчэ сціплы помнік іх дзейнасці. І будзем спадзявацца, што найлепшым помнікам маладзёваму супраціву будзе вывучэнне і напісанне сапраўднай гісторыі гэтага супраціву, якая зойме належнае меца ў найноўшай гісторыі Незалежнай Дэмакратычнай Беларусі.

***Ад рэдакцыі. Мы спадзяёмся, што размова пра антысавецкае падполле ў Лідзе будзе працягнута. Справа ў тым, што частка ўдзельнікаў гэтай арганізацыі ацалела. У Лідзе зараз жыве А. Логвін, адзін з першых пяці арыштаваных. Да гэтага часу ён упарта маўчаў. Спадзяёмся, што публікацыя нашага матэрыялу выкліча ў яго патрэбнасць даставіць недастаўленыя кропкі, дасказаць недасказанае.***

## В. І. Саітава

# Развітанне з Сынам Айчыны

***Прысвячаю s.p. Jadwiqi Chanenko (Czyrwonik) zarliwej parafianki kosciola w Lunna.***

15 кастрычніка 1817 г. у Салюры (Швейцарыя) памёр Тадэвуш Касцюшка. Пазней яго цела было перапахавана ў Кракаве на Вавелі.



**Надмагільны помнік Т. Касцюшку ў Салюры**

Смерць слаўнага сына беларускай зямлі і легендарнага змагара за незалежнасць Рэчы Паспалітай, часткай якой была радзіма беларусаў Вялікае Княства Літоўскае, выклікала магутны уздым патрыятычных настрояў грамадзян. На гэты раз не са зброяй у руках, а з малітвамі ў храмах яны ў апошні раз згуртаваліся вакол Касцюшкі. Да вясны 1818 г. па ўсёй Беларусі ў храмах розных канфесій праводзіліся ўрачыстыя набажэнствы за душу слаўнага Сына Айчыны. Рыхтаваліся яны ў складкі, на сродкі, сабраныя грамадзянамі, адпраўляліся святарамі бясплатна. На старонках віленскай газеты "Кур'ер літэвскі" (невялікая частка выпускаў якой захавалася ў нас на сёння) сустракаюцца лісты з беларускіх гарадоў, з якіх паўстае незвычайная духоўная атмасфера тых жалобных дзён. Лісты зачароўваюць пачуццямі бязмежнага жалю, глыбінёй павагі і любві да Касцюшкі, патрыятычнай узнёсласцю і годнасцю.

1 студзеня (14 студз.па н.ст.) 1818 г урачыстае набажэнства ў памяць Т. Касцюшкі адбылося ў Фарным касцёле ў Койданаве (Дзяржынск). Касцёл быў перапоўнены людзьмі розных саслоўяў і веравызванняў. Багата і прыгожа быў прыбраны катафалк. Труну ўкрывалі сцягі і вайсковыя харугвы. Геніі* над труной уяўлялі: адзін – сталасць і дабрадзейнасць, другі – плач Айчыны па страце Сына, а над балдахінам на транспаранце Геній трымаў у адной руцэ сэрца, а ў другой вянец з надпісам "Вянец удзячных Ліцьвінаў і Жмудзінаў добласнаму Генералу". Унізе былі выведзены гады Т. Касцюшкі і змяшчалася яго выява ў лаўрах. Катафалк ярка асвятляўся, над чатырма калонамі ўзвышаліся чатыры гарматныя ядры ў каляровых агнях. Па баках катафалка стаялі шэсць убогіх са свечкамі.

Вялікую імшу ўрачыста распачаў з початам святароў WX. Міхал Карызна, пралат і канонік кафедры жмудскай. Пропаведзь таленавітага і палкага WX . Імпаліта Вярцінскага, пробашча панявежскага, выклікала слёзы ў многіх прысутных. Настаўнік фізікі і матэматыкі павятовай койданаўскай школы В. Адам Куяўскі выступіў з гарачай прамовай аб годнасці народа. Завершаны абрад быў requiescant in pace WX. Філіпа Капецкага, каноніка брэсцкага, дэкана ковенскага, пробашча койданаўскага. Вялікае ўздзеянне на прысутных аказала дасканала падабраная і выкананая музыка. Пасля завяршэння імшы на працягу гадзіны ва ўсіх цэрквах розных хрысціянскіх канфесій гучалі званы.

Аўтар ліста называе імёны святароў, якія падрыхтавалі ўбранства катафалка і цэрымонію набажэнства: гэта WW.XX . Бенедыкт Дзерашкевіч, плебан койданаўскіх кармелітаў, святар гарадской школы і Анджэй Белякевіч, вікары койданаўскага Фарнага касцёла.

Грамадзяне Менскай губерні ўшанавалі памяць пра Тадэвуша Касцюшку на ўрачыстым набажэнстве 21-22 лютага (7-8 сак. па н. ст.) 1818 г. Раніцай 21 лютага званы Кафедральнага касцёла ў Менску абвясцілі пачатак вялікага набажэнства. Праз паўгадзіны пасля адкрыцця касцёл запоўніла мноства людзей і наступіла поўная цішыня. Свае месцы занялі губернскія кіраўнікі, чыноўнікі, грамадзяне і грамадзянкі.

У цэнтры касцёла ўзвышаўся помнік, займаючы месца катафалка. На высокіх ступенях размяшчалася стройная падстава (пастамент), упрыгожаная гістарычнымі барэльефамі, прадстаўляючы грамадзянскую сталасць, сціпласць і бескарыслівасць. На ёй была выраблена ў старадаўнім стылі труна з адпаведнай скульптурай (упрыгожаннямі, рэльефамі) і надпісам ***"Ecce. Par. Dev. Ziqnum. Vir. Fortis. Cum. Mala. Fortuna. Compositus. Spectaculum. Sane. Diqnum. Ad. Quod. Respiciat. Intentus Operi. Suo. Deus".*** На труне гіпсавы Геній Айчыны каласальнай велічыны і магутнай постаці утрымліваў прыгожы бюст Т.Касцюшкі. Тое, што ў Менску не было яго войска, не дало магчымасці скарыстаць ваенныя сімвалы. Тым не менш, помнік, на думку гледачоў, вызначаўся ідэяй, удалымі памерамі, якія падаў Ір. D...., чалавек дасканалага густу, знаёмы з Геніем (так названы тут Т. Касцюшка) на Літве.

Жалобная імша пачалася з музыкі і спеваў. Урачыста здзеяйсняў абрад IW. IX. Пазьняк, адміністратар дыяцэзіі, прэлат Менска, асэставалі пралаты і сябры Капітулы. Узнёслую пропаведзь сказаў IW.IX. Афіцыял Камінскі.

Паміж асобнымі часткамі цэрымоніі чуллівая музыка кранала сэрцы прысутных. Музычнае афармленне таленавіта выканаў IP. Крэнпскі.

У канцы набажэнства з прамовамі выступілі: Міхал Зяновіч, маршалак менскай губернскай шляхты, камандор Леон Ошторп, былы маршалак Ігуменскага павету (Чэрвеньшчына), Адам Гарабурда, прэзідэнт земскага слуцкага суда. Закончыўся абрад у дзве гадзіны па поўдні.

Не толькі гарачая пропаведзь шаноўнага прэлата, і красамоўства і глыбокі сэнс у прамовах грамадзян, але святасць месца і імя Т. Касцюшкі выклікалі вялікае расчуленне, якое адбілася ў вачах і на тварах прысутных.

Назаўтра з 9 гадзін раніцы набажэнства прадоўжылася. Касцёл упрыгожвалі багатыя аксаміты, якія засталіся пасля пахавання князя Гераніма Радзівіла і былі дастаўлены на цэрымонію з парафіяльнага касцёла Нясвіжа. Пачалося урачыстае маленне, якое па чарзе з палкасцю, пакорам і вялікай самаахвярнасцю служылі святарам манаскіх ордэнаў бернардынцаў, а таксама прэлаты, канонікі і увесь клір.

2 сакавіка татарскі мула Якуб Здановіч запрасіў у мячэць губернскіх кіраўнікоў, чыноўнікаў і грамадзян на пахавальны абрад, прысвечаны памяці Тадэвуша Касцюшкі. Прысутныя звярталі ўвагу на воінаў гэтага рыцарскага народу – афіцэраў-ветэранаў Юзафа і Эльяша Юшынскіх, якія змагаліся пад знакамі Касцюшкі ў 1794г. Сціпласць і гарачнасць мусульманскіх малітваў пакарылі прысутных.

Шкадуе аўтар гэтага ліста, што прамова А. Гарабурды і пропаведзь А. Камінскага застануцца невядомымі народу. Прамовы М. Зяновіча, камандора Ошторпа, татарскага мулы Я. Здановіча разам з перакладзенай малітвай з Аль-Карану выйшлі ў 1818 г. у Вільні. Аднак гэтай кнігі няма нават у буйнейшых бібліятэках Беларусі.**

Шмат дзесяцігоддзяў прайшло з таго часу. У памяць пра Т. Касцюшку пастаўлены помнікі ў Кракаве, Лодзі, Вашынгтоне, Мілуокі, Кліўлендзе, Салюры. У Салюры ёсць і музей Касцюшкі. Яго імем названа самая высокая гара ў Аўстраліі, адна з акруг штата Індыяна, горад у штаце Місісіпі, астравы на Алясцы. Так ушанавалі ў свеце памяць нашага славутага земляка. У Беларусі імя Касцюшкі носяць вуліцы ў Гародні, Бярэсці, Косаве. У Гародні і Косаве ўстаноўлены мемарыяльныя знакі. У беларускай сталіцы няма ні помніка, ні вуліцы з імем нацыянальнага героя, якога нашы продкі называлі Геніем Айчыны.



**Помнік Т. Касцюшку ў Вашынгтоне**

** Геній – тут дух, апякун. Такое значэнне слова "геній" мела ў разглядаемы перыяд.*
*** На жаль, аўтары лістоў таксама невядомыя.*



# Слова да беларускага народа

## Нацыянальнага грамадскага арганізацыйнага камітэта “Беларусь — 2000 гадоў”

*(Працяг. Пачатак у №№ 12-14)*

Дзяржаўнае аб’яднанне Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы стварыла ўмовы і для царкоўнай уніі. Як вядома, галоўнай рэлігіяй ВКЛ было праваслаўе, а Польскага каралеўства – каталіцызм. ВКЛ ў 1596 г. пайшло на заключэнне Берасцейскай уніі, якая адкрывала дарогу да аб’яднання дзвюх хрысціянскіх канфесій – праваслаўя і каталіцтва ў адну рэлігію, якая атрымала назву ўніяцкай. Валадыры княства імкнуліся такім чынам забяспечыць рэлігійнае адзінства нацыі. Новая рэлігія месцамі ўсталёўвалася з цяжкасцямі. Аднак у канцы XУIII ст. уніятамі былі ўжо 75% насельніцтва краіны. Адной з важных прычын шырокага распаўсюджвання ўніяцтва было выкарыстанне ў набажэнстве зразумелай народу роднай беларускай мовы. Унію скасавалі расейскія ўлады ў 1839 г. Уніяцкая царква пазней была адроджаная беларускай інтэлігенцыяй і сёння ў Беларусі дзейнічае гэтая канфесія.

Стварэнне канфедэрацыі ВКЛ і Польшчы спрыяла ўмацаванню абароназдольнасці абедзвюх краінаў. У ліпені 1579 г. войскі вялікага князя літоўскага і караля польскага Стэфана Баторыя вызвалілі захопленыя раней Маскоўскай дзяржаваю Полацк, Веліж, Невель і інш.

У выніку новай вайны з Масковіяй 1609-1618 гг. да ВКЛ адышлі Смаленская, Чарнігаўская, Наўгарод-Северская землі.

На пачатку XУII ст. Рэч Паспалітая вяла войны са Швецыяй. У 1605 г. яе войскі на чале з Янам Хадкевічам разбілі шведаў у Кірхсгольмскай бітве, а ў 1609 г. – пад Рыгаю.

У 1632 –34 гг. адбывалася так званая “Смаленская вайна”, калі Масковія зноў спрабавала захапіць Смаленскія землі, па Паляна́ўскай дамове яны засталіся ў складзе ВКЛ.

У 1648-1651 гг. Рэчы Паспалітай давялося весці цяжкія ваенныя дзеянні на паўднёвых межах супроць паўстання ўкраінскіх казацкіх загонаў пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага, якія падтрымліваліся Масковіяй і хацелі захапіць усходне-паўднёвыя землі Беларусі.

Сапраўдным жудасным выпрабаваннем для нашага народа стала агрэсія маскоўскага цара Аляксея Міхайлавіча “ Тишайшего” у 1654 –67 гг. Трынаццаць гадоў без перадыху сціраліся з твару зямлі беларускія гарады, фартэцы, замкі, палацы, вёскі разам з насельніцтвам. Ад рук захопнікаў, голаду, холаду, эпідэміі загінула 46% насельніцтва ВКЛ, а на землях сучаснай Беларусі было знішчана 53% жыхароў. Ніводная з суседніх з Беларуссю краінаў ніколі не перанесла такой дэмаграфічнай катастрофы. Абаронцы Бацькаўшчыны пакінулі трагічны запіс: **“ Да таго дайшла Айчына наша, што ратуючыся загіне”.**

Беларусь стала арэнаю ваенных дзеянняў і ў час Паўночнай вайны 1700-1721 гг. паміж Расеяй і Швецыяй. Рэч Паспалітая выступала ў якасці саюзніка расейскага імператара Пятра І, які першым з ваенных “геніяў” прымяніў на Беларусі тактыку выпаленай зямлі перад наступаючым непрыяцелем. У выніку – загінуў кожны трэці беларус. У час гэтай вайны быў узарваны Полацкі Сафійскі сабор.

Ваенная разруха была не адзінай небяспекай для Вялікага Княства Літоўскага. Паступова нарасталі і ўнутраныя праблемы. У канфедэрацыі з Польскай Каронай ВКЛ пераставала жыць сваім асобным жыццём, адчынілася дарога да польскага ўплыву. Польскі змест жыцця ўсё больш стаў уваходзіць у лад жыцця Беларусі і пачаў пераважаць. Найперш паланізацыі паддаліся беларускія магнаты і шляхта, многія перайшлі ў каталіцкую веру. Працэс рэлігійнага, а пасля і поўнага адзялення беларускай эліты ад свайго народа сыграў драматычную ролю ў далейшай гісторыі нацыі. Страта для нацыянальнага жыцця найболей адукаванай часткі народа аслабіла яго жыццёвы патэнцыял. Сама беларуская мова выцяснялася з дзяржаўнага і магнацкага справаводства. У 1696 г. Канфедэратыўны Сойм Рэчы Паспалітай наогул вынес пастанову, што дзяржаўныя дакументы ў ВКЛ павінны складацца не на беларускай, а на польскай мове.

Бесперапынныя войны, эканамічны заняпад, парушэнне балансу раўнапраўнага існавання двух суб’ектаў канфедэрацыі, несупадзенне палітычных інтарэсаў Княства і Каралеўства прывялі да аслаблення канфедэратыўнай дзяржавы. У выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай 1772, 1793, 1795 г.г. паміж больш моцнымі на той час суседзямі – Расеяй, Прусіяй і Аўстрыяй, канфедэрацыя перастала існаваць. Землі Вялікага Княства Літоўскага адышлі да Расейскай імперыі. Дзяр-жаўная самастойнасць беларусаў была ўпершыню цалкам страчана на два стагоддзі.

Лепшыя сыны беларускага народа змагаліся за аднаўленне незалежнасці сваёй Бацькаўшчыны ў шматлікіх паўстаннях, якія былі жорстка ліквідаваныя ўладамі. З дапамогай А. Суворава “просвещённая” расейская імператрыца Кацярына II ўтапіла ў крыві нацыянальна-вызвольнае паўстанне 1794 г. на чале з Тадэвушам Касцюшкам. Ахвяры нашы засталіся непадлічанымі, бо былі незлічонымі.

Пасля вызвольнага паўстання 1830-1831 г.г. паводле загадзе расейскага імператара Мікалая І пачалася жорсткая русіфікацыя краю. Беларускія землі сталі правінцыяй Расейскай імперыі – “Северо-Западным краем”. Каб замірыць Северо-Западный край, насаджалася расейскае чынавенства, расейская школа, праваслаўная царква. Гэтая трыяда прымусіла паднявольных беларусаў змірыцца з навязанаю ім думкаю, што іх краіна нібыта дабраахвотна ўвайшла у склад “брацкай Русі”.

Вайна Расеі з Напалеонам у 1812 г. каштавала жыцця кожнаму чацвёртаму жыхару Беларусі, зноў наша зямля стала арэнай вядзення чужой нам вайны.

Імператар Аляксандр II разам з генералам-вешальнікам Мураўёвым жорстка разграмілі ў 1863-1864 г.г. паўстанне шляхты, мяшчан і сялян-касінераў на чале з Кастусём Каліноўскім. Расейскі высокапастаўлены чыноўнік-шавініст, апякун Віленскай навучальнай акругі Карнілаў выказаў тады цынічна-жахлівую думку: “Расейскія школы і адукацыя могуць зрабіць на Беларусі тое, што не зробяць салдаты штыхом і куляй”. Прароцтва яго блізкае да здзяйснення.

Новыя ўлады падпарадкоўвалі сваім інтарэсам і эканамічны патэнцыял нашых зямель, стваралі гаспадарчую апору для расейскага панавання. Расейскія цары шырока раздавалі сваім генералам і чыноўнікам беларускія землі разам з сялянамі. Усяго было падаравана каля 210 тыс. беларускіх сялян мужчынскага полу. Канфіскаваліся маёнткі беларускай шляхты, якая не жадала служыць расейскім уладам. Была ўведзена і расейская сістэма падаткаў, яна аказалася значна цяжэйшай і не стымулявала развіццё гаспадаркі. У выніку такой драпежніцкай палітыкі гаспадарцы беларускіх зямель былі нанесены непапраўныя страты. Нашы землі зведалі на сабе ўсе праблемы эканамічнага жыцця, якія перажывала Расейская імперыя ў XIX ст. – крызіс феадальна-прыгонніцкага ладу, развіццё па расейскаму ўзору капіталістычных адносінаў, эканамічныя крызісы і масавае збядненне насельніцтва. Беларускія землі ператварыліся ў глыбокую правінцыю вялікай імперыі, якая не клапацілася пра іх належны эканамічны стан. Развіццё прамысловасці, будаўніцтва чыгункі, пераход ад ручной да машыннай вытворчасці не маглі істотна паленшыць цяжкага эканамічнага становішча насельніцтва. Нашы суродзічы вымушаны былі пакідаць Бацькаўшчыну і шукаць магчымасці зарабіць кавалак хлеба на чужыне. 500 тыс. беларускіх сялян ад’ехалі ў канцы XIX ст. ў Сібір, дзе сёння жывуць яшчэ цэлыя беларускія вёскі. Насельніцтва нашага краю адчувала на сябе вялікі палітычны і культурны ўціск.

Насуперак палітыцы расейскага цырызму наш народ здолеў абудзіцца да нацыянальнага жыцця. Беларускае слова загучала ў творах Яна Баршчэўскага, Яна Чачота, Вінцэнта Дуніна-Марцынкевіча, Францішка Багушэвіча і сярод іншых прадстаўнікоў нацыянальна свядомай інтэлігенцыі. Беларусы побач з расейскімі змагарамі супроць царскага дэспатызму ўдзельнічалі ў народніцкім руху. Адзін з іх – Ігнат Грынявіцкі, родам з-пад Бабруйска, здзейсніў у 1881 г. змах на расейскага цара Аляксандра II. Паплечнікі Грынявіцкага ад імя беларускай фракцыі Народнай волі ў 1884 г. выдалі два нумары нацыянальнага часопіса “Гоман”, дзе ўпершыню тэарытычна абгрунтавалі існаванне ў Расейскай імперыі самастойнага беларускага этнасу, заявілі аб роўнасці яго з іншымі народамі, праве на ўласную дзяржаўнасць.

У канцы XIX ст. беларускі рэвалюцыйна-дэмакратычны і адраджэнні рух набраў сілы. Новы этап беларускага рэвалюцыйна-дэмакратычнага і адраджэнцкага руху разгарнуўся напярэдадні і ў час рэвалюцыі 1905-1907 гг. Ён ахопліваў даволі шырокія сілы насельніцтва. Зімою 1902-1903 гг. братамі Іванам і Антонам Луцкевічамі, Алаізай Пашкевіч і інш. была створана першая беларуская палітычная партыя — Беларуская сацыялістычная грамада. У верасні 1906 г. у Вільні выйшла першая беларуская газета “Наша доля”, якая была хутка зачынена ўладамі. Але, ў лістападзе 1906 г., пачала выходзіць яе пераемніца газета “Наша Ніва”, лёс наканаваў ёй існаваць да жніўня 1915 г. і стаць сапраўднай абуджальніцай беларусаў. “Наша Ніва” згуртавала вакол сябе нацыянальныя сілы беларускага народа, падрыхтавала глебу да новага ўздыму беларускага Адраджэння. Гэты працэс быў паскораны важнымі падзеямі, што адбываліся тады ў свеце.

Першая сусветная вайна 1914-1918 г.г., змаганне ў ёй Германіі і Расеі разгарнуліся на беларускай зямлі. Вайна абышлася нам 1,2 млн. жыццяў, загінуў кожны пяты. 1,5 млн. жыхароў Беларусі па волі расейскага самаўладства былі выгнаны са сваіх хатаў, зведалі бежанства ў глыбіні Расеі, а з ім і многа гора на чужыне.

Паражэнне ў вайне прывяло да краху расейскага самаўладства ў лютым 1917 г.. Для нашай спакутаванай Бацькаўшчыны адкрылася перспектыва адраджэння ўласнай дзяржаўнасці.

Кульмінацыйным момантам у барацьбе за дзяржаўнасць Беларусі стаў першы Усебеларускі Кангрэс (з’езд) у Менску ў снежні 1917 г., арганізаваны пры вядучай ролі Беларускай сацыялістычнай грамады. У яго працы ўдзельнічалі 1872 дэлегаты з ўсіх рэгіёнаў Беларусі, яны прадстаўлялі сялян, рабочых, вайскоўцаў, бежанцаў, інтэлігенцыю. Кангрэс паспеў прыняць толькі першы праект пастановы пра самавызначэнне Беларусі ў складзе Расейскай Федэрацыі і часовай краёвай уладзе ў асобе Усебеларускага савета сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў. У час прыняцця гэтага лёсаноснага для нацыі рашэння – у ноч з 17 на 18 снежня 1917 г. з’езд быў разагнаны кіраўнікамі мясцовай бальшавіцкай улады пры дапамозе вайсковай сілы. Але абраныя Рада і Выканаўчы камітэт прадоўжылі дзейнасць і сталі адзінымі абаронцамі інтарэсаў беларускага народа. У лютым-сакавіку 1918 г. Рада была ператворана ў парламент – Раду Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), Выканаўчы камітэт стаў урадам БНР пад назвай Народны Сакратарыят. 25 сакавіка 1918 г. Рада БНР выдала 3-ю Ўстаўную грамату, Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчалася незалежнай дзяржаваю. У гэтым дзяржаўным Акце гаварылася аб тым, што БНР “павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае колькасную перавагу беларускі народ”, згадваліся землі Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны, Віленшчыны, Беласточчыны. Дата абвяшчэння БНР назаўсёды стала гістарычнай для нашага народа і штогод адзначаецца ўсімі свядомымі беларусамі, як найвялікшае свята. Залатымі літарамі павінны быць унесены ў гісторыю Беларусі імёны дзеячоў БНР, чыя дзейнасць падрыхтавала з’яўленне Акта 25 сакавіка: Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, Язэп Варонка, Алесь Бурбіс, Аркадзь Смоліч, Кастусь Езавітаў і многія інш. Раду БНР у розныя часы ўзначальвалі Іван Серада, Пётр Крэчаўскі, Васіль Захарка, Мікола Абрамчык, Вінцэнт Жук-Грышкевіч, Язэп Сажыч. Зараз Старшынёй Рады БНР з’яўляецца Івонка Сурвіла, якая жыве ў Канадзе.

Замацаваць беларускую незалежнасць у той час не ўдалося. З усходу на Беларусь наступала Чырвоная армія, з захаду – польскія войскі. Большая частка Беларусі аказалася захопленаю бальшавікамі. Рада БНР мусіла была выехаць з Менску ў Гародню, а потым у эміграцыю, спачатку ў Летуву, далей з 1923 па 1943 г. знаходзілася ў Празе, пасля ў Парыжы, ЗША, Канадзе. Увесь гэты час Рада БНР у замежжы перахоўвала ідэю незалежнасці Беларусі.

Ліквідацыя БНР бальшавікамі выклікала супраціўленне з боку беларускага народа. У абарону БНР восенню 1920 г. выступілі Слуцкія паўстанцы, змаганне якіх стала гераічнай старонкай гісторыі Беларусі. Імёны іх таксама нельга забываць – Уладзімір Пракулевіч, Ахрэм Гаўрыловіч, Павел Жаўрыд, Антон Сокал-Кутылоўскі, Юрка Лістапад.

Перамога бальшавікоў не магла зліквідаваць ўплыў БНР на далейшае развіццё Беларусі. Новыя ўлады вымушаны былі лічыцца з беларускім нацыянальным рухам, асабліва з той яго часткаю, якая падтрымала савецкую ўладу з надзеяю на ажыццяўленне ідэалаў беларускага нацыянальнага адраджэння. Менавіта ў выніку намаганняў беларускіх дзеячоў Аляксандра Чарвякова, Зміцера Жылуновіча, Усевалада Ігнатоўскага і інш., 1 студзеня 1919 г. у Смаленску была абвешчана Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусь, у далейшым стала Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікай (БССР). У 1922 г. яна выступала адным з сузаснавальнікаў СССР. Рэспубліка ўключыла этнічныя беларускія землі, але ў далейшым не па сваёй волі страціла шмат сваіх тэрыторый.

Нашу Бацькаўшчыну дзялілі ў сакавіку 1918 г. пры падпісанні Берасцейскай дамовы паміж Расеяй і Германіяй, у 1920 г. пры падпісанні дамоваў Расеі з Летувою і Латвіяй. Сапраўднай драмай для беларускага народа сталіся вынікі Рыжскай мірнай дамовы 1921 г. паміж Расеяй і Польшчай, у выніку якога Заходняя Беларусь была перададзена Польшчы. Аднавіць цэласнасць краіны ўдалося часткова ў верасні 1939г., калі Заходняя Беларусь ізноў была далучана да СССР.

Глыбокай павагі заслугоўваюць нашы землякі з Заходняй Беларусі – барацьбіты за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, за беларускую мову, школу і культуру: Браніслаў Тарашкевіч, Антон Луцкевіч, Адам Станкевіч, Ігнат Дварчанін, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Аляксандр Уласаў, удзельнікі беларускага нацыянальнага руху ў Вільні і інш. мясцінах Беларусі. Многія з іх цярпелі пакуты ў польскіх турмах і канцлагерах, некаторыя пасля вызвалення ў 1939 г. ад палякаў адразу трапілі ў савецкія турмы. Трагедыю цэлага пакалення мужных, загартаваных, самаадданых і жорстка падманутых беларускіх нацыянальных дзеячоў цяжка ўявіць.

*(Працяг у наст. нумары).*

# ТАК ЯНО ПАЧЫНАЛАСЯ...

Илькевич Н.Н. Академик Гавриил Горецкий: первое столкновение с ГПУ. К истории высылки отечественной интеллиганции в 1922 году. Документальный очерк.
Смоленск. Посох, 1988.

Старонкі дакументальнага нарысу Міколы Ількевіча "Академик Гавриил Горецкий: первое столкновение с ГПУ" давялося прагарнуць не адзін раз. Кніга чамусьці не адпускала ад сябе, непакоіла, цягнула да новага і новага роздуму, хоць матэрыял, які датычыў першага арышту Гаўрылы Гарэцкага, быў ужо досыць знаёмы па мінулагодняй палымянскай публікацыі Радзіма Гарэцкага і з толькі што выдадзенай кнігі "Ахвярую сваім "я" ..." На жаль, пра М.Ількевіча мне мала што вядома: служыў начальнікам цэнтра грамадскіх сувязяў упраўлення контрразведкі ФСБ Расеі па Смаленскай вобласці, зараз ён на пенсіі, і кніга выдадзена ўласным коштам — за ўсё плацілася з не такой ужо і багатай кішэні.

Канешне, такія глыбінныя натуры, такія магутныя постаці ў беларускім жыцці, як браты Гарэцкія, самі сабой заваарожваюць, І калі адпускаюць, то — вельмі не хутка. Але было нешта ў дзвюх кніжачках — Р. Гарэцкага і М.Ількевіча, — што прымушала класці іх поруч на стол, як бы для сумоўя, дагаварыць між сабой тое, што з-за інтэлігентнай тактоўнасці не сказана было Р.Гарэцкім ва ўспамінах пра бацьку. А менавіта — пра яркую характарнасць Гаўрылы Гарэцкага, якая выявілася не толькі ў неверагоднай пад час допытаў фразе "прад'яўленыя мне абвінавачванні ў контррэвалюцыйнасці лічу цалкам хлуслівымі", але і ў спробе дваццацідвухгадовага студэнта Пятроўскай сельскагаспадарчай акадэміі (цяпер Ціміразеўкі) спалучыць у сабе неспалучальнае: палкую аддднасць ідэалам "Рэнесансу Беларусі" (выраз Г.Гарэцкага) і гэткую ж палкую веру ў справядлівасць новай улады.

Дакументальны нарыс М.Ількевіча разгортвае старонку першага (з чатырох) арышту Г.Гарэцкага органамі ДПУ. Прытым разгортвае не як выпадковасць індывідуальнага чалавечага лёсу, — кніга даследуе працэс мутацыі дзяржаўнага мыслення, які ўнесла ў XX стагоддзе прымружанае вока бальшавіцкага правадыра. У падзагалоўку кнігі і пазначаны дадатковы штрых: "Да гісторыі высылкі айчыннай інтэлігенцыі ў 1922 годзе".

Чытаем: ***"... звольніць 20-40 прафесараў абавязкова (...). Абдумаць падрыхтаваць, і стукнуць моцна". "Такім "талентам" не грэх пасядзець тыднямі ў турме", таму што "на справе гэта не мозг, а г...".*** Гэта — **Ленін.**

М.Ількевіч справядліва піша: *"Уражвае сваім цынізмам і бессаромнасцю пастаянная апеляцыя бальшавіцкіх лідэраў да рабочых, супрацьпастаўленне аднаго сацыяльнага пласта грамадства другому, раскручванне варожасці і нянавісці ..."* — урокі, якія мы здаецца прайшлі, а ўкарацелая памяць іх чамусьці апускае.

Высылка інтэлігенцыі за мяжу, да чаго рыхтавалі і Г.Гарэцкага, была не толькі карай за "антысавецчыну". Гэта была практычная спроба рэалізацыі, сцвярджаецца ў кнізе, "нечага новага, незвычайнага, чаго няма ў крымінальных заканадаўствах іншых краін". Яркім доказам таму — ленінскія папраўкі да арт. 71 крымінальнага кодэксу РСФСР, якія прадугледжвалі расстрэл за самавольны зварот у межы савецкай краіны. А яшчэ высылка — дзіўнскі доказ, што інтэлігенцыя і папраўдзе ніякі не "мозг", што па жаданні правадыра яна лёгка сплывае на "філасофскіх параходах" за мяжу, як і павінен сплываць маўклівы выкід плоці. Што, (і тут варта згадзіцца з аўтарам прадмовы прафесарам Г. Меркіным,) "для бальшавікоў лепшы інтэлігент — гэта мёртвы інтэлігент".

А так не выходзіла. Так гладка не выходзіла.

"Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі: першае сутыкненне з ДПУ" ёсць трагічна-шчымлівая споведзь пра тое, як воля аднаго паўстала насуперак волі сістэмы. Як гэтую адзінкавую волю сістэма першым наступам зламаць не здолела. Аўтар падхопліваве эстафету роздумнага пытання, сфармуляванага Р.Гарэцкім, чаму ўсё ж не выслалі яго бацьку, і на багатым фактычным матэрыяле даводзіць: ні гібель сястры Ганначкі, ні заступніцтва "кам'ячэк", ні нават службовае хадайніцтва перад Масквой беларускага ДПУ істотна на лёс Г.Гарэцкага паўплываць не маглі. Проста тым разам, у далёкім 1922 -ім , сістэма не "абдумала", не "падрыхтавала", а таму не змагла стукнуць на ўсю сілу. Прыйшлося ў некаторых выпадках адступіць, заціхнуць на час, каб потым распачаць наноў і нарэшце зрабіць так, як прасіў Ільіч, — "стукнуць моцна".

Усё пра што ішла гаворка вышэй, не голыя словы. Кніга М.Ількевіча змяшчае шмат адсылак да першакрыніц, з якімі даследчык абыходзіцца вельмі карэктна. Досвед прафесійны аказаўся тут цалкам прыдатным. Упершыню ў поўным выглядзе пададзена звыш трыццаці дакументаў, што тычацца асобы Г. Гарэцкага, дзе прыярытэтнай каштоўнасцю з'яўляецца літаральна ўсё: і заявы Гарэцкага, і інфармацыі даносчыкаў, і рэзалюцыі супрацоўнікаў ДПУ — Уншліхта, Ягоды, Мяжынскага, — і хадайніцтва Беларускага Цэнтральнага бюро па асвеце (з подпісам У. Дубоўкі), і сакрэтныя шыфроўкі органаў ДПУ Менска і Масквы.

Кніга не толькі тлумачыць, адкрывае загадкі, але і змушае ўдумвацца. Нават у рэчы, якія першым назіраннем здаюцца банальнымі. Напрыклад, калі б у 1922 годзе адбылася высылка Г.Гарэцкага за мяжу, як бы склаўся лёс Максіма? Як зрэагаваў бы ўрад Ластоўскага? Ці стаўся б магчымым канцэнсус у Берліне 1925 года? Якім маршрутам увогуле пайшла б беларуская гісторыя? Адно відавочна з гэтых умоўных пытанняў: бальшавікі гулялі палітычную "партыю" ўсур'ёз і надоўга, пралічваючы на многа хадоў наперад.

Падагульняючы свае назіранні над працаю М. Ількевіча, можна з упэўненасцю канстатаваць: атрымалася сур'ёзная, удумлівая, сумленная кніга. Яна будзе карыснай не толькі для тых, хто шануе аб'ектыўнасць факту. Найперш нават каштоўны для тых, хто яшчэ не змог цалкам развітацца з прыгожай казачкай пра "дедушку Ленина" і яго атачэнне, хто яшчэ мае сумнеў, вагаецца ў выбары грамадзянскай пазіцыі адносна моманту гістарычнага і моманту сучаснага. Для тых, чыя душа анямела ў паняверцы, стамілася ад бясконцых маніпуляцый грамадскай свядомасцю.

*Ігар Жук,*
*г.Гародня*

# Невядомая гравюра абраза Маці Божай Свержаньскай

Надзвычай багатай і змястоўнай старонкай гісторыі мастацтва Беларусі былі цудоўныя абразы Маці Божай. З па-над сотні святыняў да сённяшняга дня дайшлі толькі адзінкі. Таму даследчыкі аддаюць належнае значэнню літаратурных крыніцаў, дзе захаваліся звесткі пра абразы. Неацэнным дадаткам да гісторыі іканапісу нам уяўляюцца гравіраваныя выявы цудатворных абразоў.

Апошнім часам у фондах РНБ (С.-Пецярбург) намі выяўлена невядомая гравюра цудатворнага абраза Маці Божай Свержаньскай. Медзіярыт памерамі 188 Х 141 змешчаны ў выдадзенай у Нясвіжы на ўшанаванне Свержаньскай святыні кнізе "Поўня прыгожай як Месяц, што свету ласкаў праменямі прысвечвае...". Гравюра перадае адзін з асноўных тыпаў паказу Маці Божай з дзіцем - Адзігітрыю. Выява амаль пакаленная, дзіця сядзіць на левай руцэ Марыі. Правай рукой Яно дабраслаўляе, у левай трымае скрутак. Маці Божая апранута ў хітон, магчыма, арнаментаваны ля шыі і на рукавах, і мафорый з вузкай каймой, на галоўнай частцы ён мае роўнаканцовы крыж, на правым плячы - шасціканцовую зорку. Дзіця адлюстравана ў хітоне, падпяразаным поясам, і гімаціі; арганізацыя складак саступае візантыйскім узорам. Маці Божая, як царыца неба і зямлі, мае на галаве карону, аднолькавую па кшталту з каронай Хрыста. Рысы твараў маюць некаторае падабенства выяваў на абразе "Маці Божая Адзігітрыя Нерушыя Рыхт... 

Маці Божая Адзігітрыя Неўядальны цвет". Фон аздоблены буйным раслінным арнаментам і манаграмамі Марыі і Хрыста. Вядома, што абраз быў напісаны на драўлянай дошцы па залатому фону і меў у XIX ст. срэбную шату.

Адметнасць гравюры ад жывапіснага абраза складае шырокі ракайльны картуш з надпісам на лацінскай мове: "Выява Найсвяцейшай Дзевы Марыі Свержаньскай у графстве Мірскім Найвысакароднейшых Князёў Радзівілаў у айцоў Ордэна Святога Васіля Вялікага цудамі праслаўленая. 1753". Над картушам шырока раскінуў крылы чорны радзівілаўскі арол, па баках якога гярбы Радзівілаў і Вішнявецкіх. Арнаментыка ў выглядзе асімітрычных завіткоў і невялікіх ракавін характэрная для нясвіжскай гравюры сярэдзіны XVIII ст.. Тэхнічны ўзровень выканання медзіярыта досыць высокі. Прыёмы гравіравання нагадваюць аб партрэтах Радзівілаў з нясвіжскага альбома 1758 г., магчыма, гэта работа Г. Ляйбовіча.

У прадмове да чытача аўтар адзначыў, што шмат часу патраціў, шукаючы інфармацыю, як даўно існуе абраз, кім і адкуль паходзіць. Але дарэмна. ***"Падчас многіх розных у Айчыне войнаў пры рабаванні з апошніх набыткаў бедных людзей і мучэнні іх, забіванні і паленні, да спалення або захопу ўсіх сярадаўніх дакументаў, фундушаў і іншых несмяротнай памяці годных рэчаў даходзіла. Хто, напрыклад, пра цудоўны Жыровіцкі абраз дакладна ведаць можа? Адкуль? І як узяўся? Хто пра Рымскі ў базыльянскай рэзідэнцыі Літоўскай правінцыі ў 1718 г. з'яўленым дакладную вядомасць мець можа?"*** Вяртаючыся да Свержаньскага абраза, І. Ясткевіч спасылаецца на *"вуснае паданне, якое існавала з даўніх часоў сярод людзей, што каля 1500 г. у лесе на дрэве быў знойдзены".* Занадта традыцыйнае паданне наўрад ці можна прыняць на веру. Царква Ўспення (Ўнебаўзяцця) Багародзіцы, дзе знаходзіўся абраз, была фундацыяй 1590 г. Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі.

З'яўленне абраза ў храме, магчыма, адбылося ў хуткім часе пасля яго будаўніцтва. Першы занатаваны цуд Свержаньскай святыні адносіцца да 22.03.1638 г. Тады падчас хрышчэння дзіцяці бацька хросны замарудзіў з адказам на пытанне святара: "Верыш у Ісуса Хрыста?" - але немаўля само да вялікага здзіўлення многіх прысутных адказала: "Веру". З таго часу, як сцвярджаюць аўтары, шмат праяўленняў Божай моцы адбывалася ў Свержані. Са сваімі хваробамі і бедамі выпраўляўся туды не толькі просты люд, але і шляхта. Магнаты Радзівілы, якія мелі клопаты са здароўем, як і ўсе смяротныя, таксама ахвяраваліся да абраза.

Выявы цудатворных абразоў і святых патронаў былі здаўна распаўсюджаныя ў нашым краі. Іх стваралі мастакі такога ўзроўню, як І. Шчырскі, Л. Тарасевіч, Ф. Бальцэвіч, І. Карэнга, а таксама П. Пятровіч, П. Камар і іншыя менш вядомыя і ананімныя майстры. Кніжныя гравюры і станковыя лісты дапаўняюць белыя старонкі гісторыі беларускага мастацтва.

*Ткачэнка М.Н.,*
*навуковы супрацоўнік Расійскай Нацыянальнай Бібліятэкі (РНБ)*
*Санкт-Пецярбург*

# "Светлай памяці М.Трухана"

Перастала біцца сэрца Міколы Трухана – дырэктара тэатра "Дзе – я?", таленавітага чалавека, сумленнага беларуса. Згарэў у час тэатральнага фестывалю "Маладэчанская сакавіца". У мінулым годзе ў красавіку глядзелі спектакль "Барановы кароль", тады ж і пазнаёмілася з М.Труханам. Восенню, у верасні, прыязджаў у Вільню, сустракаўся з вучнямі школы, распавёў аб працы, планах на будучыню. Прывёз касету спектакля, фотаальбом, с такой любоўю расказваў пра кожнага актора, як і пра тэатр, арганізаваны ім. Тэатр "Дзе-я?" шмат паставіў п'есаў Фр. Аляхновіча, у планах – паставіць усё напісанае драматургам. М.Трухан і ў Вільню прыехаў, каб наладзіць гастролі, паказаць спектаклі ў горадзе, дзе нарадзіўся Фр.Аляхновіч, яны блізкія і цікавыя віленчукам. Але, прапанавалі яму залу непрыгодную для спектакля, адкладвалі, у выніку адлажылі на сакавік, прыйшоў 9 сакавіка – дзень нараджэння Ф.Аляхновіча, 3 сакавіка – 55 гадоў з дня трагічнай смерці. Відаць, Фр. Аляхновіч забаронены, як і другія. Вось так, не дапамаглі, не падтрымалі і адышоў чалавек заўчас. А тады, у версні, мы хадзілі на былыя кальвіністкія могілкі, дзе быў пахаваны Фр.Алехновіч, потым – на Росы, куды яго паразахавалі. Доўга стаяў М.Трухан каля скульптуры драматургу, паклаў "Запрашэнне" і развітаўся – да сустрэчы. Можа іх душы ўжо ў небе "сусрэліся", а ў Вільні больш "сустрэчца" ім не прыйшлося. Не да тых звярнуўся па дапамогу. Засталася светлая памяць ад сустрэчы з Міколам Труханам, хоць і кароткай, жыццё яго прайшло ў пошуках, стаўленні, зацвярдзенні.

*Леакадзія Мілаш, г.Вільня.*

Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік:
ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі:
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі:
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых адпраўленняў:
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by

Рэдакцыйная калегія:
Людміла Дзіцэвіч, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гарадзенскага аблвыканкама.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове.Газета падпісана да друку 12. 04. 99 г.
Наклад 4600 асобнікаў. Замова № 997 .
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 20 000 руб., 3 мес.- 60 000 руб.
Кошт у розніцу: 7 000 руб.